



# Рэгіянальная газета. Rh.by


тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12+

18 жніўня 2017 года №33 (1164)


Футбаліст Прохар Новікаў: "Не жанаты, бо ніхто не хоча выходзіць за мяне"

старонка 22

"Калі адказваў табліцу Мендзялеева, мне апладзіраваў увесь клас". Маладзечанец пра вучобу ў Германіі

старонка 5

Дзясяткі літраў юшкі і французскія спевы: як адзначылі свята юшкі на Вілейшчыне

старонка 17

# У Валожыне – 33 рублі, у Вілейцы – 53

Чаму матэрыяльная дапамога школьнікам са шматдзетных сем'яў у рэгіёне розная?



Старонка 2

Фота yarcube.ru

Маю правы

*Усе людзі нараджаюцца свабоднымі і роўнымі ў сваёй годнасці і правах. Яны надзеленыя розумам і сумленнем і павінны ставіцца адзін да аднаго ў духу брацтва.*

Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека.

# Адным – 33 рублі, другім – 53

## Сума дзярждапамогі школьнікам у рэгіёне розная. Чаму?

ВАЛОЖЫН, ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА



Падчас урокаў у маладзечанскай школе №14.

Маладзечанка Аксана гадуе пяць дзяцей. Трое з іх школьнікі. Таму інфармацыю пра тое, што дзяржава дапаможа грашыма школьнікам са шматдзетных сем'яў, Аксана успрыняла з радасцю.

Тым больш, усюды ў друку і на сталічным тэлебачанні, гучала лічба да 60 рублёў на школьніка. Шматдзетная мама ўжо пачала падлічваць, што зможа купіць дзеткам да школы. Сума ж на траіх – амаль дзвесце рублёў.

### 30 ці 60? Ёсць розніца?

Але жанчыну чакала расчараванне. Яна патэлефанавала ў маладзечанскі Цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва, дзе ёй сказалі, што сума будзе амаль на палову меншай. Па словах жынчыны, яе знаёмыя шматдзетныя сём'і з Мінска ўжо атрымалі амаль па 60 рублёў на дзіця.

– Вось скажыце, ёсць розніца 30 рублёў ці 60? – патэлефанавала да нас у рэдакцыю абураная жанчына. – Калі не даюць 60 рублёў, то навошта пра іх пісаць.

На мінулым тыдні на сайце Беларускага тэлеграфнага агенства сапраўды змясцілі інфармацыю пра тое, што на Міншчыне больш за 27 тысяч школьнікаў са шматдзетных сем'яў атрымаюць матэрыяльную дапамогу на падрыхтоўку да новага навучальнага года.

Па словах **Зоі Канапліной,** начальніка аддзела народанасельніцтва і гендэрнай палітыкі камітэта па працы, на гэтую мэту папярэдне прадугледзелі больш за адзін мільён рублёў з бюджэту. Дапамогу ў Мінскай вобласці атрымаюць больш за 13 000 сем'яў і больш за 27 000 дзяцей.

Выплаты прадугледжаныя дзяржаўнай праграмай "Здароўе народа і дэмаграфічная бяспека Рэспублікі Беларусь на 2016 – 2020 гады".

На мінулым тыдні, па словах Зоі Канапліной, выплаты на Міншчыне ўжо пачаліся. На іх могуць разлічваць сем'і, якія гадуюць траіх і больш непаўнагадовых дзяцей, якія вучацца ў школах. Памер дапамогі складзе амаль да 60 рублёў і вызначаецца мясцовымі ўладамі.

Мы звярнуліся ў некаторыя гарады рэгіёна, каб высветліць чаму ў розных гарадах Міншчыны памеры дапамогі розныя.

### У Маладзечне – крыху больш за 30 рублёў, у Вілейцы – 53

У маладзечанскім Цэнтры сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва загадчыца аднаго з аддзяленняў **Вольга Татун** расказала, што да іх таксама тэлефанавалі незадаволеныя шматдзетныя мамы.

Аднак, па словах Вольгі Аляксандраўны, яны чамусьці не звяртаюць увагу на тое, што пазначаная сума – не 60 рублёў, а да 60.

Сказана, што выплаціць павінны суму, якая складзе да 30 % бюджэтнага мінімуму. На сённяшні дзень бюджэтны мінімум – 197 рублёў 57 капеек. Значыць 59 рублёў – максімальная сума выплаты. Гэта па-першае.

А па-другое, канчатковую суму дапамогі вызначаюць прадстаўнікі мясцовай улады.

> **По назіраннях Вольгі Татун, у Маладзечне гэтая сума заўжды адна з самых маленькіх на Міншчыне. Сёлета яна складзе крыху больш за 30 рублёў.**

Для параўнання, у Вілейцы расказалі, што на кожнага школьніка са шматдзетнай сям'і бацькі сёлета атрымаюць па 53 рублі. Грошы будуць выдаваць наяўнымі ў бухгалтэрыі Цэнтра.

### Вучыцца ў Валожыне, жыве ў Маладзечне

Валожынскія школьнікі са шматдзетных сем'яў атрымаюць грашовую дапамогу да школы сумай 33 рублі. Пра гэта расказала дырэктар Цэнтра **Галіна Рай.** Летась гэтая сума склала 31 рубель.

Па словах Галіны Фадзееўны, на рэгіянальным узроўні няма адзінага Палажэння пра такія выплаты.

З-за гэтага ўвесь час і супрацоўнікі Цэнтра, і бацькі шматдзетных дзяцей сутыкаюцца з пэўнымі праблемамі.

Напрыклад, у Ракаве жыве шмат сямей, дзеці якіх вучацца ў Мінску. Ёсць сем'і, якія зарэгістраваныя ў Маладзечне, а школу наведваюць у Валожыне. Як быць у такіх сітуацыях? Дзе павінны атрымліваць дапамогу гэтыя дзеці?

Летась, па словах Галіны Рай, у Маладзечне выплачвалі дапамогу толькі тым дзецям, якія ходзяць у маладзечанскія школы. Таму з-за гэтых недапрацовак некаторыя ўвогуле засталіся без дапамогі.

Аксана ЯРАШОНАК.

# А што рабіць? Агульнае палажэнне спрасціла б працэдуру

Каб пазбегнуць такіх выпадкаў сёлета, у Валожыне зрабілі дадатак у Палажэнні, паводле якога тут выплацяць дапамогу і тым валожынскім школьнікам, якія тут вучацца, але не зарэгістраваныя. Вядома, калі ў іх будзе дакумент аб тым, што па месцы рэгістрацыі грошай яны не атрымалі.

Дапамогу ў Валожыне, як у большасці невялікіх гарадоў Міншчыны, выплачваюць наяўнымі грашыма. Калі вёска месціцца далёка ад горада, супрацоўнікі Цэнтра самі прывозяць грошы ў вясковыя сям'і.

Каб атрымаць дапамогу, бацькі павінныя сабраць дакументы: даведку пра склад сям'і, даведку пра тое, што дзіця вучыцца ў школе і напісаць заяву.

Школы ў Валожыне актыўна дапамагаюць Цэнтру ў зборы дакументаў. Часам бацькі прыносяць паперы "на прамую" ў Цэнтр.

Ужо паступілі 937 заяў. Ад 15 жніўня пачалі выплачваць грошы.

Аднак, па словах супрацоўнікаў, 937 – не канчатковая лічба. У канцы жніўня выпускнікі базавай школы, што не паступілі ў сярэднія спецыяльныя ўстановы, вяртаюцца ў школу. Такім дзецям таксама трэба будзе выплаціць дапамогу.

Канешне, каб пазбегнуць праблем і непаразуменняў, хацелася б нейкага агульнага Палажэння для ўсіх гарадоў, кажа Галіна Рай.

Аксана ЯРАШОНАК.

# Школьніца з Мясаты зарабляе 70 рублёў за тыдзень і хоча пайсці ў палітыку

МАЛАДЗЕЧНА

**– Вось тваё марожанае! Смачна есці! – і дзяўчынка-прадавец з усмешкай працягвае хлопчыку ражок з салодкімі халоднымі шырыкамі.**

**Сабіна Аліева** жыве ў Мясаце. Кожную раніцу яна ідзе на электрычку і едзе на працу ў Маладзечна. Напэўна, так робяць многія дарослыя вяскоўцы.

Але Сабіна – яшчэ школьніца. Сёлета яна скончыла дзевяць класаў красненскай сярэдняй школы. Атрымала пасведчанне з адзнакай і адразу пасля экзаменаў уладкавалася на працу.



Сабіна Аліева з Мясаты на працы ў Маладзечне.

### У шматдзетнай сям'і падпрацоўвалі ўсе дзеці

Ужо другі месяц дзяўчынка працуе ў прыватнага прадпрымальніка: прадае марожанае ля аднаго з буйных гандлёвых цэнтраў у Маладзечне. Гэта яе першы працоўны досвед. Кажа, спачатку шукала падпрацоўку па аб'явах, а потым дапамаглі сваякі.

Тата Сабіны азербайджанец. Адсюль не зусім звыклае для нашай мясцовасці імя і прозвішча маёй субяседніцы. І яркая знешнасць таксама.

У сваёй сям'і Сабіна – чацвёртае дзіцё. Яна – самая малодшая. Кажа, што ў сям'і так заведзена: летам усе дзеці падпрацоўвалі. Але Сабіну мама асабліва не хацела адпускаць на працу.

– Мяне і так ніколі дома няма, – распавядае дзяўчынка. – Я – актывістка, супрацоўнічаю з рознымі арганізацыямі, шмат у чым удзельнічаю. Са школы ў навучальны годзе часта прыязджаю позна ўвечары.

Аднак Сабіна ўпэўніла маму, што праца ёй патрэбная. Так і дзяўчынка будзе мець справу, і сям'і – нейкая дапамога.

### Грошы – на адзенне, падарункі, школу

Заробак Сабіна атрымлівае кожны тыдзень. Памерамі яго задаволеная. Калі добрая выручка, за тыдзень зарабляе 70 рублёў. Нават не за тыдзень, а за пяць дзён. Бо мае два абавязковых выхадных.

Грошай хапае, каб і набыць нешта, і адкласці да новага навучальнага года. Летам у сям'і было шмат урачыстых падзей, таму значная частка заробку пайшла на падарункі.

Віншавала бацькоў з гадавінай вяселля, брата – з днём нараджэння. На вяселлі ў сястры дапамагала сведцы. А гэта таксама патрабуе выдаткаў. Частка грошай пайшла на адзенне і іншыя дзявочыя прыемнасці.

Працаваць з грашыма Сабіне не цяжка. Яе мама ўсё жыццё працуе ў гандлі. А дачка з дзяцінства побач з ёй.

Працоўны дзень Сабіны – ад дзесяці раніцы да сямі вечара. Аднак на працоўнае месца заўсёды прыязджае раней.

Нягледзячы на тое, што на канікулах можна спаць да абеду, дзяўчына падымаецца а палове восьмой, хуценька збіраецца.

І ў 8:53 электрычка ўжо вязе яе ў Маладзечна.

– Цяжка меркаваць з раніцы, якая выручка будзе за дзень, – дзеліцца Сабіна. – Часам пахмурным халодным днём марожанае купляюць больш, чым гарачыней.

"Наплывы" пакупнікоў бываюць пасля дванаццаці, калі людзі ідуць на абед, і бліжэй да шасці вечара, калі заканчваецца працоўны дзень.

Часам марожанае купляюць мужчыны, якія на вуліцы чакаюць жонак з шопінгу.

З усяго мноства пакупнікоў, падзялілася Сабіна, надоўга запамінае тых, хто нечым незадаволены. Нехта з раздражненнем кажа, што марожанае не так афармленае, нехта злуецца, што няма пэўнага гатунку.

– Аднак нават такім пакупнікам я стараюся неяк падняць настрой, – дзеліцца маладая прадавачка, – бо марожанае – гэта ж тое, што павінна прыносіць радасць.

Падыходзяць дзеці з бацькамі. Часцей мамы і таты купляюць любімы ласунак малечы. Але здараецца і так, што пранізлівае "мамачка, купі!" бацькі не могуць задаволіць.

– Бавае, дзеці так плачуць, што проста хочацца даць ім гэтае марожанае, – распавядае дзяўчына.

На яе думку, дзеці цяпер разумныя. На іх лепш не крычаць, не адцягваць дзіцёнака ад маржанага, а растлумачыць, што грошай няма. Што ж зробіш, час цяпер такі, з веданнем жыцця кажа Сабіна.

### І ўсё ж не гандаль, а палітыка

І ўсё ж чаму юная прыгожая дзяўчынка абрала не штодзённыя вясковыя прагулкі з сябрамі, а працу?

– А чаму вы вырашылі, што мне не хапае часу на сяброў? – задае мне Сабіна сустрэчнае пытанне. – Я ўсё паспяваю.

Па словах дзяўчыны, выхадныя яна заўсёды праводзіць з сям'ёй або сябрамі. А за час працы новыя сябры з'явіліся і ў Маладзечне. Яны кожны вечар прыходзяць праведаць дзяўчыну да электрычкі.

Працаваць засталося зусім няшмат. Хутка – дзясяты клас. А праз пару год трэба выбіраць прафесію. Тут Сабіна ўжо вызначылася. І гэта будзе не гандаль.

– Хачу звязаць сваё жыццё з палітыкай, – сур'ёзна адказвае мая субяседніца. – Мяркую паступаць на факультэт міжнародных зносін.

Такі выбар – ад таго, што дзяўчына любіць вывучаць замежныя мовы, ёй падабаюцца зносіны з людзьмі і падарожжы.

Фота аўтара.

Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 10.08 | 17.08 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9537 | **1,9450** |
| Еўра | 2,2943 | **2,2831** |
| Злоты, 10 | 5,3825 | **5,3256** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2575 | **3,2612** |
| Грыўня, 100 | 7,5960 | **7,6066** |
| Курсы ў "Банку БелВЭБ" | 9.08 | 16.08 |
| Еўра | 2.2900/2.3150 | **2.2700/2.2950** |
| Долар ЗША | 1.9450/1.9600 | **1.9400/1.9550** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 9.08 | 16.08 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 16,85 | **16,85** |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,95 | **6,98** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | **3,25** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 3,80 | Санітарны дзень |
| Селядзец, 1 кг | 3,80 | |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 11,00 | |
| Рыс, 0,9 кг | 1,45 | **1,45** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,20 | **1,30** |
| Алей "Фермер", 1 л | 2,20 | **2,20** |
| Маянэз, 200 г | 0,95 | **0,93** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,50 | **1,60** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 5,20 | **5,20** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,95 | **0,85** |
| Часнок, 1 кг | 7,50 | **5,95** |
| Капуста, 1 кг | 0,40 | **0,60** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 3,50 | **1,50** |
| Морква, 1 кг | 1,00 | **0,90** |
| Кабачкі, 1 кг | 0,50 | **0,50** |
| Лімоны, 1 кг | 3,45 | **3,95** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,50 | **2,99** |
| Дыня, 1 кг | 1,50 | **1,70** |
| Буракі, 1 кг | 0,80 | **0,60** |
| Памідоры, 1 кг | 1,40 | **1,00** |
| Агуркі, 1 кг | 1,10 | **1,20** |
| Перац, 1 кг | 1,25 | **1,49** |
| Кавун, 1 кг | 0,75 | **0,70** |
| Вінаград, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 3,30 | **3,30** |
| Ківі, 1 кг | 5,50 | **5,00** |
| Персікі, 1 кг | 3,00 | **2,49** |
| Нектарыны, 1 кг | 3,70 | **3,30** |
| Абрыкосы, 1 кг | 3,75 | **3,20** |
| Бананы, 1 кг | 1,80 | **1,69** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Гранаты, | 9,90 | - |
| Яблыкі, 1 кг | 2,10 | **2,20** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 2,50 | **3,95** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Бульба, 1 кг | 0,50 | **0,50** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |
| Мёд, 0,5 л | 6,50 | **6,50** |

НАВІНЫ

## Мужчыну, які патануў у Віліі, знайшлі праз чатыры дні

ВІЛЕЙКА

У нядзелю, 5 жніўня, у Віліі патануў 33-гадовы мужчына.

Як распавялі ў вілейскім РАСК, цела маладзечанца выратавальнікі знайшлі 9 жніўня.

Яно было прыкладна ў 700 метраў ад месца, дзе мужчына купаўся.

**Аддзел інфармацыі.**

## Своечасаова спрацаваў пажарны апавяшчальнік

АШМЯНЫ

Увечары 11 жніўня ашмянскія выратавальнікі прынялі паведамленне аб пажары ў вёсцы Павішні. Гарэў цагляны дом, які гаспадыня-пенсіянерка выкарыстоўвала як лецішча.

Высветлілася, што ў момант узнікнення пажару ў хаце быў сын гаспадыні. Яго выратавальнікі знайшлі ў двары дома.

Як распавёў сам мужчына, незадоўга да здарэння ён выпіваў, затым запаліў цыгарэту і сам не заўважыў, як заснуў. Прачнуўся ад гуку аўтаномнага апавяшчальніка і самастойна пакінуў падпаленае жыллё.

З пажарам выратавальнікі справіліся за 20 хвілін. Агонь пашкодзіць маёмасць у доме, пашкодзіць перакрыцце і дах. Прычынай узгарання паслужыла неасцярожнае курэнне.

**Паводле сайта МНС.**

## Маладая жанчына выпала з балкона 16-га паверха ў Гомелі

У Гомелі маладая жанчына выпала з балкона 16-га паверха, ад атрыманых траўмаў яна памерла на месцы. Пра гэта БЕЛТА паведаміў афіцыйны прадстаўнік УУС Гомельскага аблвыканкама Віталь Прыстромаў.

Трагедыя адбылася ноччу 16 жніўня. Цела жанчыны 1988 года нараджэння знайшлі каля шматпавярховага дома па вуліцы Ільіча ў Гомелі.

Устаноўлена, што жанчына выпала з агульнага балкона 16-га паверха, менавіта там выяўлены рэчы загінулай. Версія здарэння – суіцыд.

Следчым камітэтам прызначана правядзенне неабходных экспертыз і праверак.

**Паводле БелТА.**



## Немаўля памерла, пакуль яго бацькі пілі

Брэсцкі міжраённы аддзел Следчага камітэта праводзіць праверку па факце смерці аднагадовага дзіцяці ад пнеўманіі, паведамляе Tut.by.

Вонкавы агляд цела дзіцяці не ўстанавіў пашкоджанняў. Папярэдняя прычына смерці – пнеўманія, аднак па медыцынскую дапамогу бацькі не звярталіся.

У момант смерці яны знаходзіліся дома ў стане алкагольнага ап'янення.

Сям'я памерлага стаяла на ўліку як сям'я ў сацыяльна небяспечным становішчы, бо і бацька, і маці злоўжывалі спіртным.

**Паводле tut.by**

## Маці і сын загінулі ад пажару

МАЛАДЗЕЧНА

13 жніўня маці і сын загінулі на пажары ў вёсцы Касцюшкі.

Пра пажар паведамілі каля трох гадзін ночы. Прычыну высвятляюць.

**Паводле БелТА.**

## Пакуль прыгавор не ўступіў у сілу, валожынец скраў яшчэ раз

ВАЛОЖЫН

Здарэнне адбылося 29 ліпеня ў Валожыне.

Раней неадназразова судзімы валожынец скраў электратрымер.

Газонакасілку ён нават паспеў прадаць.

Аднак, гаспадары хутка выявілі прапажу і заявілі ў міліцыю. Матэрыяльную шкоду ў поўнай меры вярнулі гаспадарам.

Здавалася б, звычайны крадзеж, але за тыдзень да гэтага валожынец выйшаў з залы суда, дзе яго судзілі за папярэдні крадзеж.

Пакуль прыгавор не ўступіў у законную сілу, валожынец выршаў пацярпець "подзвіг".

Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" расказаў следчы Валожынскага РАСК **Аляксандр Бархоўскі**.

**Наталля ТУР.**

# Раскрылі крадзеж, які не маглі раскрыць пяць гадоў

МАЛАДЗЕЧНА

**Адбыўся гучны крадзеж яшчэ ў красавіку 2012 года.**

У Радашкавічах будавалі прыватны дом. Будучыя гаспадары набылі дарагое ацяпляльнае абсталяванне, якое там захоўвалі.

Ацяпляльныя прылады і будаўнічыя матэрыялы былі разлічаныя на ўвесь дом. Тады іх кошт складаў каля 75 мільёнаў недэнамінаваных рублёў.

Невядомыя злодзеі залезлі ў дом і скралі адтуль шмат радыятараў, тэрмастаты, прылады для ацяплення падлогі і яшчэ шмат дарагога абсталявання.

На працягу пяці гадоў міліцыя шукала злодзеяў.



Фота mchs.gov.by.

Гучную справу перадалі ў суд.

У рэшце рэшт, сёлета 7 жніўня крымінальную справу завяршылі і перадалі яе ў суд.

У злачынстве падазраецца 36-гадовы мясцовы жыхар разам з 26-гадовым знаёмым, які таксама жыве ў Радашкавічах.

Знайшлі таксама людзей, якім мужчыны прадалі скрадзенае абсталяванне. Частку рэчаў удалося вярнуць гаспадарам.

Пра гэта расказаў старшы следчы маладзечанскага раённага аддзела Следчага камітэта **Юры Багушэвіч.**

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На Мядзельшчыне шукаюць 50-гадовага мужчыну

МЯДЗЕЛ

**Мядзельскі раённы аддзел Следчага камітэта Беларусі адшуквае без вестак зніклага Сяргея Валасевіча.**



Ён нарадзіўся ў 1967 годзе, ураджэнец вёскі Чарэмшыцы Мядзельскага раёна. Пражываў у вёсцы Чарэмшыцы. Мужчына 19 ліпеня пайшоў з дома ў невядомым накірунку, і да гэтага часу яго месцазнаходжанне не ўстаноўлена.

Прыкметы Сяргея Валасевіча: на выгляд 50 год, рост каля 175 сантыметраў, хударлявага целаскладу, бледны твар еўрапейскага тыпу, лоб сярэдняй вышыні, адхілены назад, шэрыя вочы, дугападобныя бровы, нос з гарбінкай, вертыкальны падбародак, авальныя вялікія вушы, прамыя светла-русыя валасы сярэдняй даўжыні, звонкі голас, пры размове шапялявіць, памер нагі 42-43.

**Паводле мядзельскага райаддзела Следчага камітэта.**

## Маладзечанца на скрадзеным аўто затрымалі на Вілейшчыне

МАЛАДЗЕЧНА

Раніцай 8 жніўня ў міліцыю Маладзечна звярнуўся прыватны прадпрымальнік. Ён паведаміў, што з яго вытворчага памяшкання зніклі рэчы.

Супрацоўнікі міліцыі высветлілі, што ноччу невядомы пранік у памяшканне, скраў ноўтбук, ключы ад машыны "Форд Транзіт" і з'ехаў на ёй з месца здарэння.

Увечары таго дня злодзея затрымалі ў Вілейскім раёне. У стане алкагольнага ап'янення ён спаў у скрадзенай машыне. Тут жа быў і ноўтбук.

32-гадовы маладзечанец прызнаўся, што ноўтбук скраў для сябе. А машыну хацеў прадаць на запчасткі.

Мужчына быў судзімы дзевяць разоў. Зараз яго заключылі пад варту, расказаў "Рэгіянальнай газеце" старшы следчы маладзечанскага РАСК Юры Багушэвіч.

## У Алёхнавічах 48-гадовая жанчына трапіла пад цягнік і загінула

МАЛАДЗЕЧНА

У нядзелю, 13 жніўня, пасля дзевяці гадзін вечара цягнік "Вільнюс-Мінск" насмерць збіў 48-гадовую жыхарку Маладзечаншчыны, расказаў "Рэгіянальнай газеце" старшы следчы маладзечанскага раённага аддзела Следчага камітэта Юры Багушэвіч.

Як стала вядома, жанчына пераходзіла чыгуначныя пуці па пешаходным памосце, калі цягнік быў ужо блізка.

Машыніст сігналіў, у рэшце, рэзка затармазіў, аднак наезду не пазбегнуў. Ад атрыманых траўмаў жанчына загінула на месцы.

Загінулая жыла ў недалёкай ад Алёхнавічаў вёсцы. Пераходзіла чыгунку п'янай.

Зараз маладзечанскі РАСК праводзіць праверку. Аднак, па словах сведкаў, ніхто не штурхаў жанчыну на рэйкі. Версія суіцыду таксама малаверагодная.

Па словах Юрыя Багушэвіча, здарэнне адбылося з-за неасцярожнасці жанчыны.

## Пырснуў суседу дыхлафосам у твар і адабраў грошы

ВІЛЕЙКА

77-гадовы жыхар вёскі Воранаўка 12 жніўня атрымаў пенсію і расказаў пра гэта 20-гадоваму хлопцу, які прыехаў у вёску да бабулі-суседкі.

У размове хлопец даведаўся, што пенсіянер збіраецца ў суседнюю вёску аддаць доўг.

Злодзей падпільнаваў суседа і на шляху ў вёску Вострава пырснуў яму ў твар дыхлафосам і забраў кашалёк, распавялі ў вілейскім РАСК.

Калі мужчына прыйшоў у сябе, ён пайшоў назад у сваю вёску і расказаў бабулі хлопца пра ўчынак унука.

Пра здарэнне пацярпелы паведаміў у міліцыю. Па факту праводзяць праверку.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Дзяўчынку, што знікла на Мядзельшчыне, знайшлі ў балоце жывой

МЯДЗЕЛ

Пра тое, што ў лесе каля вёскі Барысы, на Мядзельшчыне, знікла 10-гадовая дзяўчынка, у МНС паведамілі 12 жніўня пасля 23:00.

Дзяўчынка ўдзельнічала ў роварнай прагулцы. Але звярнула са сцежкі і знікла, піша БелТА.

13 жніўня яе знайшла пошукавая група ў балоцістай мясцовасці. Стан дзяўчынкі здавальняючы.

Па словах дзіцяці, "толькі моцна пакусалі камары".

**Паводле БелТА.**

БЕЛАРУСЬ - ГЕРМАНІЯ

# “Калі адказваў табліцу Мендзялеева, мне апладзіраваў увесь клас”

## Маладзечанец расказаў пра вучобу ў Германіі

**Пакуль беларусы ўзмоцнена рыхтуюць дзяцей да навучальнага года: выбіраюць школьную форму, набываюць канцылярскія тавары; бацькі нямецкіх школьнікаў адчуваюць сябе больш спакойна: у школах няма формы, галоўнае, каб дзіця не было апранутае ў міні-спадніцу і шорты. Нават настаўнікі могуць прыходзіць у джынсах.**

Пра тое, чым яшчэ адрозніваецца нямецкая сістэма адукацыі, распавёў **Кевін Усу**. Хлопчык 15 гадоў жыў у Маладзечне, вучыўся ў сярэдняй школе №1, а затым з маці пераехаў у Германію. Там ён ужо год, у горадзе Бад-Хонеф жыве яго бацька, туды сям'я і пераехала.

### У Германіі вучыцца прасцей, чым у Беларусі

Хлопчык адзначае, што беларуская школа дала грунтоўныя веды па многіх прадметах, таму цяжкасцяў у навучанні не ўзнікла. Наадварот, Кевіну падаецца, што ў Германіі вучыцца прасцей. Быў толькі моўны бар'ер, які пераадольвае і да гэтага часу.

Напярэдадні навучальнага года дзеці атрымліваюць спіс прыналежнасцяў, якія неабходна набыць. Дарэчы, пішуць школьнікі толькі ў сшытках фармату А4 і пер'явымі ручкамі. Некаторыя падручнікі прыходзіцца набываць, некаторыя можна ўзяць “напракат”.

Школа дзеліцца на тры тыпы: для слабых вучняў, сярэдняя і гімназія. Паступіць у вышэйшую навучальную ўстанову можна толькі ў тым выпадку, калі ты скончыў апошнюю. Каб вучыцца ў гімназіі, неабходна мець адзнакі па асноўных прадметах не ніжэй за тройку, а лепш двойку.

### Школьная практыка дапамагае вызначыцца з прафесіяй

Калі ў Беларусі навучальны год пачынаецца 1 верасня, то ў Германіі яго пачатак залежыць ад мясцовасці, у якой жывяце. Напрыклад дзевяцікласніка Кевіна ў верасні спачатку чакае практыка, пасля якой заняткі ў школе.

– Напярэдадні ты павінен знайсці месца, дзе будзеш праходзіць практыку, – тлумачыць Кевін. – Гэта можа быць страхавая кампанія, банк, булачная, швейная майстэрня – усё, што заўгодна. З вучнем афармляюць кантракт і ў пэўны час ён прыступае да працы. Пры гэтым вядзе своеасаблівы дзённік, дзе фіксуе, чым займаўся, якія новыя веды набыў, што карысная давядаўся. У любы момант можа прыйсці настаўнік.

Сёлета Кевін будзе праходзіць практыку ў страхавой кампаніі. Яна не аплачваецца, затое дае магчымасць паспрабаваць сілы ў розных прафесіях. Гэта ў далейшым спросціць выбар пры паступленні.

– Некаторыя ідуць на практыку ў дамы для састарэлых, – адзначае юнак. – Праца там цяжкая, затое дзеці атрымліваюць добрыя кішэнныя грошы, гэта не заробак. У Германіі прэстыжна, калі ў старасці цябе аддадуць у дом для састарэлых. Паслугі каштуюць вялікіх грошаў, таму дазволіць сабе могуць толькі людзі з дастаткам. Напрыклад, элітныя дамы састарэлых каштуюць 5000 – 6000 еўра ў месяц (10 000 – 12 000 рублёў). Калі ж за састарэлымі людзьмі няма каму прыглядаць, ёсць звычайныя дамы для састарэлых.

Летнія канікулы ў Германіі доўжацца шэсць тыдняў. У гэты час школьнікі стараюцца падпрацоўваць, напрыклад, развозяць газеты. Кароткія летнія канікулы кампенсуюць выхаднымі падчас рэлігійных святаў.

### Вучыцца на калы вельмі прэстыжна

Сістэма ацэнкі ведаў ў Германіі адрозніваецца мае 6-бальную шкалу.

**Пры гэтым шасцёрка – самая дрэнная адзнака, а кол – найлепшая.**

У Беларусі Кевін быў амаль выдатнікам, меў сярэдні бал 8,7; у Германіі пакуль – 2,5. Справа ў тым, што яму яшчэ трэба пацвердзіць веды па біялогіі, здаць англійскую мову.

### Аднакласнікі апладзіруюць, калі расказваеш, чаго не ведаюць астатнія

– Напэўна, галоўнае адрозненне нямецкай сістэмы адукацыі ў тым, што выкладаюць толькі патрэбнае,– тлумачыць школьнік. – Напрыклад, у Беларусі дзеці даскана вывучаюць кожны раздзел біялогіі, у шостым класе – асновы біялогіі, у сёмым – знаёмства з жывёльным светам, у восьмым – чалавека, яго ўнутраныя органы. У Германіі гэтыя раздзелы разглядаюць паскорана да пятага класа, а ўжо потым розныя жыццёвыя сітуацыі, напрыклад, чаму ў ката вочы свецяцца ноччу. Мы павінны выкарыстаць веды па біялогіі, знайсці лагічнае абгрунтаванне гэтай з'яве.

Калі школьнік падчас адказу расказвае тое, чаго не ведаюць іншыя вучні, увесь клас устае і апладзіруе.

**– Я сутыкаўся з гэтым пяць разоў, – усміхаецца Кевін. – Першы – на ўроку хіміі, калі адказваў па табліцы Мендзялеева. Аднак пры гэтым было вельмі няёмка, не прывык да такой увагі. Клас таксама апладзіруе, калі нехта з вучняў атрымаў станоўчую адзнаку.**

### Часцей пішуць рэкламныя тэксты, чым сачыненні

Адзін з асноўных прадметаў, якія вывучаюць школьнікі – кіраванне. Дзецям расказваюць пра фінансы, банкі, як засцерагчы крэдытную картку ад узлому.

Асобнага прадмета літаратуры няма, вывучаюць мову. Сачыненні дзецям задаюць вельмі рэдка, затое рэкламныя артыкулы пішуць ледзьве не кожны тыдзень.

– Напрыклад, на ўроку нам даюць звесткі пра пэўную мадэль тэлефона, – расказвае Кевін. – Мы павінны напісаць такі рэкламны тэкст, каб захацелася набыць тавар.

Адно з самых распаўсюджаных заданняў на ўроку – вылучыць у тэксце галоўную частку. Як прызнаўся школьнік, гэта дастаткова складанае практыкаванне.

Правяраюць веды вучняў падчас кантрольных работ. Для паступлення ў ВНУ здаюць тэсты.

– Калі ты нечага не зразумеў па вучэбнаму прадмету, прыходзіцца займацца з рэпетытарам. У Германіі гэта называецца школьнай дапамогай, – адзначае юнак. – Пры гэтым вучань павінен дакладна расказаць, якая тэма яму незразумелая. Ёсць і заняткі ў групах з пяці чалавек.

Хлопчык адзначае, што па многіх прадметах не задаюць дамашняе заданне, а вось па англійскай і нямецкай мовах, матэматыцы – заўсёды.

Развіваюць творчыя магчымасці далёка не ўсе школьнікі, бо каштуе гэта вельмі дорага. Напрыклад, за заняткі танцамі на працягу месяца прыйдзецца аддаць каля 90 еўра (206 рублёў). І гэта не ўлічваючы індывідуальных трэніровак і касцюмаў для выступлення.

### Сталовых няма, носяць ссабойкі

Заняткі пачынаюцца з васьмі раніцы. Калі жывеш у іншым горадзе, можна напісаць заяву, каб школьны аўтобус забіраў цябе на прыпынку. Праезд аплачвае дзяржава, калі школа далей двух з паловай кіламетраў ад дома і знаходзіцца ў адной вобласці з месцам жыхарства.

– Я жыву ў іншай вобласці, чым школа, таму праезд аплачваць бацькі, – тлумачыць Кевін. – На яго ідзе каля 70 еўра (160 рублёў).

Замест урокаў – пары, пасля якіх наступае перапынак.

– Сталовых, у якіх можна замовіць комплексны абед няма, – распавядае Кевін. – Толькі буфет, у якім можна набыць, булачку і сок. Аднак звычайна ахвотных вельмі многа, таму хутка тавары знікаюць. Не ўзяў ссабойку – можна застацца без абеду.

Карыстацца тэлефонам у школе забаронена.



Кевін пераехаў у Германію, калі яму было 15 гадоў.

Фота забяспечанае Кевінам БАБРОВІЧАМ, Пасольства ФРГ у Беларусі. УНП 101166185.



Галіна СУДНІКОВІЧ
8793850
@gmail.com
Skype: sinica-galina92




# Куплю Прадам Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103**. |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.** |

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**

| Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну: | |
|---|---|
| Астравец | -01591, |
| Ашмяны | -01593, |
| Валожын | -01772, |
| Вілейка | -01771, |
| Маладзечна | -0176, |
| Мядзел | -01797, |
| Смаргонь | -01592. |



## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ВАЗ-2106, 1988 г.в., зялёны, добры стан, адзін гаспадар. Торг. Вілейка. Т. МТС (8-029) 7677281.

• ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*

• Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*

• Мазда 626, 1987 г.в., 2,0д, на хаду, у добрым стане, скутар "Jogt" Японія, аднамясцовы. Вілейка. Т. (8-029) 5693273.

• Опель-Зафіра А рэстайлінг, 2.0 дызель, 2004 года. Т. (8-029) 1249091.*

• Рэно-Эспайс, 1994 г.в., 2,0 бензін., сіне-зялёны. Т. Лайф (8-025) 9009398.*

• ФВ Гольф, 2001 г.в., 1,9 л, белы. Т. МТС (8-033) 6601433, (8-0176) 544060.*

• **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП "АртАлексСэрвіс" УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

• Камплект летняй гумы на літых дысках для Пежо 405 R14. Т. (8-029) 5037346.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706.*

• Аўто, можна аварыйнае. Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

### ПАСЛУГІ

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ**.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*

• Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, траншэекапальнік, вібраплітa 500 кг, самазвал 20 т. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 9666645.*

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

• Паслугі экскаватара ЮМЗ. Усе віды земляных работ. Самазвал 10 т. ІП Крэнць С.М. УНП 692015814. Т. (8-044) 5543967, (8-029) 8762233.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. 2746195*.

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. МТС (8-029) 5679826.

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. МТС (8-029) 8181648, (8-033) 3275440.

• 1-пакаёвая кватэра ў цэнтры Вілейкі. Т. (8-01771)32193, (8-033) 6029250.

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, еўрарамонт. Магчымы абмен на Мінск з даплатай. Т. (8-029) 2749893.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Смаргоні. Т. (8-029) 3443740*.

• 3-пакаёвая кватэра ў Валожыне. Т. Вэлком (8-029) 1478232.*

• Дача ў Вілейскім р-не, вёска Прынта. Т. (8-029) 9074111.

• Дача, 17 км ад Маладзечна. 1-пакаёвая кватэра ў Мінску. Т. (8-029) 3925149.*

• Дом у в. Савяцэвічы, д.43 Валожынскага раёна з мэбляй. Тэрмінова. Т. МТС (8-033) 3007271.*

• Дом у цэнтры Валожына, 70 км ад Мінска, 9 сотак. Т. (8-01772) 54154, (8-029) 2258403 Галіна.*

• Дом драўляны ў добрым стане, нарачанскі напрамак, 8 км ад Вілейкі, 16 сотак, калодзеж, склеп. Т. (8-044) 7587148.*

• Дом на Вілейскім вадасховішчы ў в. Чыжэвічы, 27 000 рублёў. Т. (8-029) 7708512, (8-029) 2731471.*

• Дом у в. Гайголі. Т. Вэлком (8-044) 4553402.*

• Дом у в. Папоўцы Вілейскага раёна Мінскай вобласці, 20 сотак, гаспадарчыя пабудовы, лазня. Т. (8-029) 8587518, (8-01771) 55349.*

• Дом у в. Рабунь, 50 кв. м, з участкам 0,25 га і гаспадарчымі пабудовамі. Т. (8-033) 6356008.*

• Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*

• Дом у в. Шастакі, 13 км. ад Смаргоні. Т. (8-029) 8724272.

• Дом у маляўнічым кутку, побач з возерам Вішнеўскае, у в. Астраўляны, д. 43 Мядзельскага раёна. Ёсць гаспадарчыя пабудовы, хлеў, гараж, лазня. Торг магчымы. Т. МТС (8-033) 3444338.*

• Дом цагляны ў в. Куранец Вілейскага раёна, больш за 100 м², зямельны ўчастак – 40 га, 9000 рублёў. Т. МТС (8-029) 5609398, 98029) 5609402.*

• Участак 15 сотак, в. Раеўшчына, Маладзечанскі р-н, электрычнасць, газ побач. 21 тыс. руб. Т. (8-033) 6666466, (8-044) 7006666.*

• Участак з домам у в. Гараватка, 15 сотак, крайні, зруб. Цана 16575 руб. Т. (8-029) 3221494.*

### МЯНЯЮ

• 2-пакаёвую кватэру ў Гомелі на 1-пакаёвую альбо дом у Маладзечне. Т. (8-029) 9168299, (8-044) 7031972.*

### ЗДАМ

• Пакой у цэнтры Маладзечна. Т. (8-029) 5019550.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865. Васкабовіч А.А.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

• **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У.А. Т. (8-044) 5745873.***

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*

• Грузаперавозкі. Бус 1,5 тн. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*

• Грузаперавозкі. Фура-борт, 20 тон. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*

• Мерсэдэс – 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Пераезды. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

• Мерсэдэс-Бэнц-Спрынтар да 2-х тон (4,2Ч1,6Ч1,75) горад, РБ, РФ. ІП Навойчык О.В. УНП 692015166. Т. (8-029) 1684717, (8-029) 7684717.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*



• Агароджы з прафнасціла, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, якія расхінаюцца. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*

• Аграсядзіба, **ЛАЗНЯ**. Vslobode.by ІП Камінскі А.Н. УНП 192737618. Т. (8-029) 6130457.*

• **АДДЗЕЛКА ДАМОЎ САЙДЫНГАМ**. ІП Бяліцкі А.В. УНП 690688577. Т. (8-029) 7085907, (8-029) 1232842.*

• Біялогія і хімія. Падрыхтоўка да ЦТ, запаўненне прабелаў. Індывідуальны падыход да навучання. Тэлефанавацьад 17.00 да 21.00. Т. (8-029) 8610280.*

• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. ІП Суббот П.І. УНП 692010733. Т.(8-029) 7737451, (8-029) 1285233.*

• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. Нізкія цэны. ІП Мацін А.М. УНП 691410712 Т. (8-029) 9447224, (8-033) 6911759.*

• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. Хутка. Нядорага. Акцыі. Скідкі. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450 Т. МТС (8-029) 7860317, Вэлком (8-029) 1287878.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Добраўпарадкаванне пахаванняў, устаноўка помнікаў. ІП Нільва А.С. УНП 691880467. Т. (8-029) 3469417.*

• Кладка, дах, фундамент, аддзелка. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*

• Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Устаноўка агароджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*



Прадам **ДАЧУ** паблізу Вілейкі, Плікавічы. Участак 10 сотак. 4 км да вадасховішча.
Т. (8-029) **651 20 36**.





• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.У. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Падрыхтоўка да субяседавання на **КАРТУ ПАЛЯКА** "з нуля". Рэпетытар па **ПОЛЬСКАЙ МОВЕ** Тадэўш Круплевіч. Пражываю ў г. Вілейка Мінскай вобласці.
Адукацыя: **МАГІСТР ПЕДАГОГІКІ КУЛЬТУРАЗНАЎСТВА**, скончыў у 2003 годзе Беластоцкі ўніверсітэт (факультэт педагогікі і псіхалогіі).
На занятках вучні вывучаюць, як правільна гаварыць і выказваць свае думкі на польскай мове, што з'яўляецца галоўнай умовай для атрымання КП пасля пацвярджэнне паходжання і грамадзянства сваіх продкаў.
Прадстаўляю ўсе вучэбныя матэрыялы па польскай мове, па гісторыі, традыцыям і культуры Польшы. Праканслутую з нагоды дакументаў і падстаў, неабходных для атрымання Карты Паляка. Дапамагу з напісаннем пошукавых запытаў у польскія архівы. Мой тэлефон для кантактаў: МТС (8-029) 5754014.

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт ноўтбукаў і камп'ютараў любой складанасці. ПУП "Рункомп" УНП 6902552869. Т. МТС (8-033) 3788997, (8-029) 3788997.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд на дом. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. у Маладзечне 733177, (8-029) 3395974.*

• Тратуарная плітка, борт і іншае. Укладка. Дастаўка. ІП Юрэвіч У.У. УНП 691505215. Т. (8-044) 7168663, (8-029) 8761382.*

• Электрык. Замена праводкі. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• **БЛОКІ Г/С (ВЫТВОРЧАСЦІ СМАРГОНІ, ЗАБУДОВЫ), ЦЭГЛА. ДАСТАЎКА**. Прыватнае прадпрыемства "Бізнес-Дэталь" УНП 691516305. Т. (8-029) 6664889.*

• **ВАГОНКА** (сасна, вольха), імітацыя бруса, **ПІЛАМАТЭРЫЯЛЫ** і інш. Маладзечна, вул. Гарадоцкая, 102. ПП "Маркціна Білд" УНП 690627804. Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

• Вагонка, вольха, сасна. Дошкі для падлогі, блок-хаўс, імітацыя бруса, палок. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*

• Цэгла, віцебскі пячны цэх №1, цэгла шамотная. Т. (8-044) 7557072, (8-029) 8351640.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Бетонамяшалка 120 л, малатарня, культыватар "Крот". Тел. (8-029) 6233154.

• Бульбасаджалка. Т. (8-029) 8462052.

• Трактар самаробны. Т. (8-029) 6237550.*

• Трактар Т-40, навяснае, прычэп. Т. Вэлком (8-029) 1991382.*

• Трактар, 2017 г.в., рухавік 16 к.с., бензін, добры стан, 1900 руб. Т. (8-029) 5039360.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ – ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ**. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• Абслугоўванне, наладжванне, рамонт спадарожнікавых антэн. ІП Буслаўскі А.М. УНП 691898750. Т. (8-033) 3494488.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ+, ЗАМЕНА СТАРЫХ ПРЫЁМНІКАЎ НА НОВЫЯ.** ГТУП "Лiцераль". УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Музінструмент**

• Акардэон 3/4, 600 руб. Т. (8-029) 5475524.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Бараніна жывой вагой – 4,5 руб, мясам – 8,5 руб. Т. (8-029) 6769359 Віталь.

• Каза, 4 гады, Мядзельскі раён, цана дагаворная. Т. (8-029) 2709811.

• Свінні дарослыя, бычок. Т. (8-025) 7894666.

### КУПЛЮ

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, сістэмны блок, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Антыкварыят**

• Антыкварыят, статуэткі, гадзіннікі, грамафоны, карціны, мэблю і іншыя старажытныя рэчы. Т. МТС (8-033) 9030854, Вэлком (8-029) 1447482.*

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Батарэі чыгунныя. Т. (8-029) 8789740.*

• Кнігу "Памяць" розных рэгіёнаў. Т. (8-029) 5019550.*

• Кнігу "Памяць", розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

• Рогі лася, аленя. Т. (8-029) 8552646.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• На пастаянную працу майстар-цырульнік з досведам не менш за 2 гады. ІП Якубовіч І.Т. УНП 691179344. Т. (8-029) 7691223.

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Шукаю працу печніка.Т. (8-025) 6035930.*

# Не прадавайце дом бацькоў

**Так і жывеш у клопатах сваіх**
**Не трэба мне якойсці іншай долі.**
**Здаецца, свае лепшыя радкі**
**Я напісаў за працаю на полі.**

Юрась Церабун



На дачы брата скульптара **Уладзіміра Церабуна** ў Гародні, пачую: "Чаму ты да гэтага часу не працуеш на зямлі, хаця б у градах? Звярні ўвагу, якая гэта прыгажосць і філасофія жыцця. Пакладзеш у цёплую зямельку зярнятка, яно прарасце, узыйдзе, зацвіце. Потым даглядаеш яго як малое дзіця і яно адорыць цябе шчодрым ураджаем".

У той жа час назіраў за яго ўпэўненымі рухамі рук у цяпліцы. Ён падрызаў памідоры.

Прыехалі дамоў у Маладзечна і задумаліся…

Мой цесць таленавіты і вядомы на Смаргоншчыне закройшчык і кравец мужчынскага адзення, працаваў у швейным атэлье Смаргонскага камбіната бытавога абслугоўвання.

**Адольф Людвігавіч Сячынскі** сваёй працай заслугоўваў гэтай пашаны. Пасля нашага расповеду пра Гародню ён сказаў: "Невялікія грошы для пачатку будаўніцтва я вам дам, а далей самі. Будуйце хатку".

Так, 35 гадоў таму мы ўзяліся за будаўніцтва ў садовым таварыстве каля вёскі Алянец.

Цесць настолькі прыгожа рабіў кладку цэглы, здаля бачыў розніцу ў пяць міліметраў, што яму можна было даверыць будаўніцтва храмаў. Мне казаў: "Ты пачынай рабіць і думай. Работа сама пакажа, што дзе адпіляваць, ці да чаго можна прыбіць".

Да гэтага часу не магу зразумець канструкцыю яго даху і гарышча на хляве і гаражы. Прыходзіў сусед Фэлька, столяр, таксама не разумеў: "Сільнейшая канструкцыя" кажа.

### Беларуская дудка

Аднойчы цесць павёз нас у лес па грыбы і пытаецца ў мяне: "А ці зможаш зрабіць дудачку?". Не, кажу, такое не ўмею.

Ён знайшоў сасонку, надрэзаў кару да сэрцавіцны і доўга па ёй стукаў. Скруціў трубку, саскроб з яе кару і ўставіў свісток, корачак з жалабком для паветра, размеркаваў і прарэзаў дзірачкі для пальцаў.

– На! Іграй!

Я адразу заіграў і сасновы лес напоўніўся мелодыяй "Союз нерушимый республик свободных".

Быў у дудцы адзін недахоп. Дзірачкі мі-фа павінны быць бліжэй, гэта ўсё ж палова тона. Я ганарыўся сваёй дудкай, на якой іграў і "Зязюленьку", і "Перапёлачку", але не доўга.

Прыбягае да мяне ўсхваляваны мастак **Юрась Герасіменка-Жызнеўскі** і пытаецца: "Што ў цябе ёсць мужыцкае? Дудка, лапці. Бяру!"

Студыя "Беларусьфільм" на Вілейшчыне здымала Купалле. Юрась Герасіменка-Жызнеўскі быў галоўным мастаком фільма. Усё абяцаў вярнуць.

Толькі мае рэліквіі не вярнуліся.

Потым меў новую дудачку вядомага майства Лычкоўскага з Чэрвеня, але падарыў яе ў Мінскі абласны краязнаўчы музей. Там ёй лепш, бо гэта ўжо гісторыя.

### Поле – прастора для творчасці

Пяць сотак з пабудовамі на дачы вельмі мала.

Людзі ці то самі, ці то хто дазволіў, узялі сабе пад грады дзялачкі ў самай нізіне ля шашы. Закінутага, здзірванелага гадамі поля кагласа з Залесся. Там мы ўзялі сабе сотак з дзесяць. На той час мы ўжо завялі гаспадарку. Мелі коз, курэй, пеўня і перапёлачак і сабачку Зіту, якая пражыла ў нас 14 гадоў.

Раскалупаўшы віламі гэты дзірван, палову засеялі канюшынай.

Канюшына ўрадзіла на славу. А пахне, а як над ёй гудуць пчолы. Паехаў на ровары ў вёску. Пытаю ў аднавяскоўцы Марыі Рагуновіч, калі касіць? Яна ў адказ: "Як мага хутчэй. Дзень-два і кветкі абсыпяцца".

Касіць я ўмеў з маладосці. А як сушыць канюшыну? Паехаў па параду да **Уладзіміра Калачыка**. Ён параіў рабіць снапочкі. Во! Гэта геніяльная падказка! Падлуў знізу ветрык, сонейка – і сохне хутка! А прыгожая, хоць ты з яе рабі букеты.

З гэтым разабраўся. Дайшла чарга да бульбы. Мой сябра з Заскавічаў **Лявон Забельскі** кажа: "Садзі бульбу не пазней за 26 красавіка і заўсёды будзеш з ураджаем".

Удосталь даў гною. І не абы якога, а з сялянскага хлява. Чалавек з канём кажа: "Гною так зашмат, што конь коўзаецца".

Нічога. Бульба будзе лепшая. Пасадзілі ў спрыяльны дзень па месячным календары. Бульба абыйшла роўна, кусты высокія, дужыя. Вось-вось зацвіце.

А тут на Сёмуху ўдарыў мароз і мая мара звяла. Бульбоўнік счарнеў як галавешка і злёг. Вясковыя людзі казалі, не сумуй, яна пусціць флянсы. Ад будьбоўніка стаяў непрыемны пах гнілі, некаторыя нават раілі садзіць зноўку. А гэта значыць, зноў купі насенне, вазьмі каня, а калі я яе капаць буду? Хіба толькі з-пад снегу.

Еду да **Уладзіміра Калачыка** пагутарыць наконт бульбы. Ён па бульбе, як і па ўсім астатнім, маэстра.

Той кажа. Бульба культура няпростая і патрабуе вялікай дакладнасці па тэрмінах. Калі першае рыхленне на дзявяты дзень, то на дзясяты можа быць позна.

Да кожнага гатунку бульбы даецца інструкцыя. Гэта ў замежных фермераў за ўсім сочаць камп'ютары, а тут трэба самому.

Калі бульба цвіце, то па барознах нельга хадзіць, альбо яе палоць. У яе своеасаблівы дзявочы перыяд, завязваюцца плады. Нездарма браткульптар казаў: "Будзь бліжэй да зямлі. Якая філасофія жыцця".

За кароткі час у вёсцы шмат з кім пазнаёміўся.

Вельмі высока цаню і ганаруся сяброўствам з леснікам **Іванам Іванавічам Рагуновічам.**

Ён прыязджаў на кані за маім сенам на поле ці рэчку з дакладнасцю ў некалькі хвілін. Ён вучыў мяне, як класці сена на воз, бо ад гэтага залежыць колькі ты пагрузіш і як давязеш.

Іван Іванавіч параіў зрабіць вілам лёгкую і значна даўжэйшую ручку.

– Калі ты падымеш сена ўверх, – казаў Іван Іванавіч, – паварочвай ручку і яно на версе воза лёгка здымецца.

Бывала, Іван Іванавіч складзе такі воз, аж дзіву даешся.

Навучыў як рабіць стажкі на сваёй сенажаці. Складае так, што кроплі дажджу сцякаюць і вецер не разбурыць.



Графічныя замалёўкі Юрася Церабуна.

### Лавіся, рыбка

На возеры ў Заскавічах была небывалая прыгажосць. Хмары, лебедзі, чыстая вада і рыба.

Раніцой на ровары прыедзеш і атрымоўваеш рыбацкую асалоду.

Прыходзіў наш любімы рыбачок Яроша. Яроша частаваў нас толькі што спечанымі блінцамі. Гэта быў таленавіты чалавек з вялікім пачуццём гумару, трактарыст **Яраслаў Аляксандравіч Свірыда.** У сваіх радках ён трапна жартаваў над сваімі калегамі па працы.

*І тудэма, і сюдэма*
*Вось на стан з'явіўся*
*Дэма.*
*Як задумаўся пра чарку*
*Дык забыўся*
*пра салярку.*
***
*Паплавок у хвалі –*
*плясь.*
*Ну хутчэй бяры, карась.*
*Калі схопіш спрытна,*
*смела*
*Цябе выцягнуць умела.*

Рыбку лавіў добра. Маленькіх карасікаў адпускаў са словамі: "Ідзі дамоў, цябе бацькі шукаюць".

Недзе аб адзінаццатай гадзіне прыходзіла яго жонка.

– Яроша, заканчвай і хутчэй вяртайся, бо трэба шмат чаго зрабіць дома.

Яна рвала траву і кідала яму на паплавок.

– Каб тваё возера дзе згарэла , – казала са злосцю жанчына.

Не стала яго любай жонкі. Аднаму жыць было цяжка. На Вілейшчыну забраў да сябе сын і ўсе звесткі пра нашага Ярошу ў мяне абарваліся.

### Непрадбачанае здарэнне

Еду на ровары ў магазін і не па шашы, а па тратуары. Вось і мост праз рачулку Бенічанка.

І раптам чую нейкі крык і бачу, як нясецца конь з возам. Драбіны растапыраныя як крылы ў казачнага дракона. Ляціць проста на мяне. Аказалася, ён быў прывязаны да плоту і яго ўкусіў нейкі авадзень.

Ухіліцца мне не ўдалося, удар, і я паляцеў на тратуар. Ровар сагнуўся, але я чую, што пакуль яшчэ жывы, бо конь жа мог праехаць па мне возам. Вопратка парвалася, моцна балела правае плячо. Конь разам з возам звярнуў у бок і спыніўся каля рачулкі.

Падыйшоў гаспадар. Замест слоў прабачэння, сказаў: "Я ж табе крычаў. Запомні, конь на чалавека не паездзе".

### Не прадавайце дом бацькоў

Не так даўно давялося ехаць на дачу праз свае любыя Заскавічы, у якіх даўно ўжо не быў.

Праз акно машыны заўважыў, якая прыгожая хатка **Рэні Васілеўскай.**

Успамінаю, як яна прыгожая з сівымі аж белымі валасамі стаяла каля брамкі і сустракала тых, хто прыязджаў.

Памятаю і выкарыстоўваю да сёння яе любімыя словы: "Нічога. Нічога. Хутка палепее".

Не ведаю, хто адбудаваў хатку Рэні. Добра, калі дзеці, унукі ці радня. А мо хто купіў і так на свой густ упрыгожыў свой двор.

Не магу без слёз і хвалявання чытаць радкі паэта **Паўла Саковіча**:

*Не прадавайце дом*
*бацькоў,*
*Вы без яго*
*не пражывеце:*
*Ён будзе сніцца зноў*
*і зноў*
*Пакуль вы ёсць*
*на гэтым свеце.*

**Юрась ЦЕРАБУН,**
**былы выкладчык цымбалаў, мастак, пенсіянер, жыхар Маладзечна.**

# Дзясяткі літраў юшкі і французскія спевы: як прайшоў "Юшка-фэст"

ВІЛЕЙКА

**На гарадскім пляжы Вілейскага вадасховішча ў суботу, 12 жніўня, было шматлюдна.**

Прычына таму – не толькі спякотнае надвор'е. А дванаццатай гадзіне тут пачаўся Фэст юшкі.

Такое свята зладзілі ўпершыню. Ініцыятарамі мерапрыемства сталі грамадскае аб'яднанне "ЗОВіК" і Крывасельскі сельвыканкам.

Фэст правялі ў рамках праекта Еўрасаюза "Садзейнічанне развіццю на мясцовым узроўні ў Рэспубліцы Беларусь". На яго правядзенне Еўрасаюз выдзеліў каля 26 тысяч даляраў.

За гэтыя сродкі зладзілі не толькі ўласна свята. На гарадскім пляжы з'явіліся альтанкі, лаўкі, лежакі і сучасная дзіцячая пляцоўка.

## Для дзяцей – пляцоўка, для дарослых – юшка

І калі дзеці забаўляліся на новых арэлях і ў пясочніцах, то бацькі з не меншым задавальненнем сёрбалі юшку і каштавалі стравы з рыбы, якія прапаноўвай кожны сельсавет Вілейшчыны.

Падвор'і сельсаветаў размясціліся ўздоўж берага вадасховішча. Кожнае з іх прываблівала сваёй "фішкай".

На падвор'і ільянцаў у акварыўме плавалі жывыя ракі. Вілейскі каледж прываблівай прыгажуняй-русалкай, конкурсамі, гучнай музыкай.

Дзяўчаты з Вязыні апранулі спадніцы з пакетаў для смецця і заклікалі наведаць падвор'е "Вязуха".

А старшыня Хаценчыцкага сельсавета **Святлана Валовік** у вобразе лясной німфы самастойна гатавала рыбныя стравы.

## 20 літраў юшкі з'елі за пару гадзін

Юшку кожны сельсавет гатаваў проста на беразе. У кожнага сельсавета быў свой рэцэпт.

Ільянцы гатавалі страву на дзвюх булёнах – рыбным і гароднінавым. На падвор'і Крывога Сяла ў юшку дадавалі асаблівыя спецыі.

Ахвотных пакаштаваць галоўную страву фэсту было шмат.

– Нашай юшкі з'елі ўжо 20 літраў, – расказала старшыня Крывасельскага сельсавета, адна з арганізатараў свята **Ірына Супрановіч**. – Пачынаем варыць другі раз.

**Па словах старшыні, рыбу для юшкі бралі ў прадпрымальнікаў, якія арандуюць два вадаёмы на тэрыторыі сельсавета.**

Акрамя юшкі, аматарам рыбных страў прапанавалі пельмені з рыбы. Зладзілі нават спаборніцтвы: хто больш і хутчэй іх з'есь.

## Холі, самадзейныя артысты і французскі спявак

Але забавы былі не толькі для страўніка. На свяце працавалі дзве сцэны. На адной "запальвалі" дзі-джэі фестывалю фарбаў. І абсыпаная каляровым парашком моладзь танчыла пад сучасныя рытмы, час ад часу заскокваючы ў вадасховішча.

На другой – вядучыя **Анатоль Занкавіч** і **Алеся Супрановіч** аб'яўлялі артыстаў сельскіх саветаў Вілейшчыны. Кожны рыхтаваў творчае прадстаўленне-візітоўку.

Нечакана да самадзейных вясковых артыстаў далучыліся выпадковыя госці-французы – выкладчык аднаго з універсітэтаў Парыжа **Бернард Фіалё** і яго сябар – французскі музыка і кампазітар.

І са сцэны над вадасховішчам разнесліся спевы пра каханне на французскай мове.

Разам з наведнікамі свята танчылі яго непасрэдныя ўдзельнікі – піраты, Няптун, русалкі і русалы (напэўна ж, так правільна будзе назваць хлопцаў у вобразе русалачак).

## На свята вазіў гарадскі аўтобус

Фестываль доўжыўся да начы. Выступалі вілейскія пісьменнікі і барды. Бліжэй да вечара зладзілі конкурс русалак, выступленні рок-гуртоў, фаер-шоў і салют на вадзе.

Дарэчы, заблукаць у горадзе і не трапіць на свята было немагчыма нават тым, хто прыехаў у Вілейку першы раз. Ад аўтавакзала на гарадскі пляж курсіраваў аўтобус. Напрамак руху на табло быў пазначаны проста – "На свята".







Моманты фэсту.

## Катэр, квадрацыкл, вадалазы: выратавальнікі распавялі пра дзяжурства на свяце

17 супрацоўнікаў вілейскай выратавальнай станцыі выйшлі на працу ў суботу, каб дзяжурыць на свяце.

Пры гэтым дзявяць з іх ахвяравалі ўласным выхадным.

Пра дзяжурства выратавальнікаў у час суботняга свята распавёў начальнік вілейскай выратавальнай станцыі **Ягор Роўда**.

– Было цяжка, але ўсё прайшло выдатна, – падзяліўся Ягор Аляксандравіч. – Чатыры вадалазы патрулявалі пляж. На вадзе дзяжурыў катэр з выратавальнікамі. А супрацоўнікі на гідрацыкле патрулявалі ўвесь бераг ад Чыжэўскай затокі да першага паста выратавальнай станцыі.

Людзей адклікаў з выхадных, кажа Ягор Роўда.

Сур'ёзных здарэнняў не было. Адзінае, прыйшлося гнаць з вады двух мужчын, якія заплылі за буйкі.

– Калі супрацоўнікі падплылі да парушальнікаў, убачылі, што тыя ў стане моцнага алкагольнага ап'янення, – прыгадвае начальнік. – А такім, як вы ведаеце, мора па калена.

Каб не здарылася бяды, выратавальнікі мусілі папрасіць парушальнікаў выйсці з вадасховішча.



Аксана ЯРАШОНАК.
Фота аўтара.

# У Вілейцы хутка з'явіцца парк скульптур

ВІЛЕЙКА

**На некалькі дзён пляцоўка на тэрыторыі вілейскага каледжа стала майстэрняй чатырох сталічных скульптараў. Тут пачаўся абласны пленэр.**

Вялізныя куранецкія камяні праз дзён дзесяць стануць творамі мастацтва, а ў Вілейцы з'явіцца невялічкі парк скульптур.

Доўгі час я лічыла, што пленэр – форма творчасці выключна для жывапісцаў. Аднак скульптар **Іван Арцімовіч**, кіраўнік сёлетняга пленэру ў Вілейцы, пераканаў мяне ў адваротным.

Пленэр – гэта любая творчасць на адкрытым паветры. А калі камяні для скульптур па паўтары-дзве тоны, то праца на пленэры – адна з самых зручных, – падзяліўся прафесійнымі назіраннямі Іван. – Вы паспрабуйце такі камень спачатку ў майстэрню занесці, а потым гатовы твор даставіць на месца ўстаноўкі.

Пленэры скульптараў, расказаў Іван, для Беларусі з'ява ўжо не новая. Яны праводзяцца з канца 1980. У Еўропе пленэрны рух пачаўся раней – у 1950-ыя.

Нядрэнна, на думку Івана, адбыўся леташні пленэр у Маладзечне. Кажа, і ўмовы былі добрыя, і ганарары нядрэнныя. Хаця з еўрапейскімі не параўнаць.

### На пленэр едзем не дзеля ганарараў

Скульптар **Арцём Мядзведзеў**, якога я заспела на пляцоўцы разам з Іванам, распавёў, што іх еўрапейскія калегі за пленэрную скульптуру могуць атрымаць да 3 тысяч долараў.

Хаця па словах творцаў, далёка не дзеля ганарараў ездзяць яны на падобныя мерапрыемствы.

Напрыклад, Іван Арцімовіч і многія з яго калег едуць на пленэр, перш за ўсё, каб бліжэй пазнаёміцца з іншымі творцамі, назапасіць эмоцый. Каб пасля на цэлы год хапіла натхнення працаваць у майстэрні.

Да таго ж, скульптуру, лічаць творцы, мала проста зрабіць. Яе трэба неяк цікава прадставіць. Зрабіць так, каб да скульптур хадзілі людзі. Гэта яшчэ адна з задач пленэраў.

Яшчэ дакладна невядома, дзе паставяць скульптуры сталічных майстроў. Аднак стаяць яны будуць недалёка адна ад другой. Усе творы аб'яднаныя агульнай тэмай "Вілія і яе берагі". А значыць будуць прысвечаныя рацэ і гораду.

– Праца найбольш канкрэтная і звязаная з мясцовасцю ў Арцёма, – распавёў кіраўнік.

Яна прысвечаная затопленым вадасховішчам вёскам і называецца "Водазахавальнікі".

Сваю працу "Плынь" і будучы твор **Паўла Лявонава** "Нявольніца прыгажосць" Іван лічыць алегарычнымі. Так, "Плынь" уяўляе сабой рачныя хвалі. А ў іх – жыццё: рыбкі і жанчына.

Па словах аўтара, жаночы вобраз – гэта не русалка, а нехта накшталт воднага боства. У старажытных грэкаў іх называлі наядамі. У нашых продкаў таксама былі падобныя істоты. Завершыць каменны вобраз маленькі човен з фігуркай чалавека ўверсе на скульптуры.

**Аляксандр Сакалоў** прысвяціць свой твор сям'і.



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Іван Арцімовіч ля будучай скульптуры.

### А скульптараў у Беларусі не так і шмат

Як вывучалі скульптары гісторыю горада, дзе будуць працаваць? Вывучалі сур'ёзна. Мінаблвыканкам для гэтай мэты даў творцам кнігу "Памяць".

Усе майстры – выкладчыкі скульптуры. Арцём Мядзведзеў працуе ў сталічнай акадэміі мастацтваў.

Пытаюся, ці ведалі творцы адзін аднаго раней, да пленэра.

Канешне! – кажа Іван. – Мы, беларускія скульптары, усе адзін аднаго ведаем.

Аказалася, што скульптараў, якія сёння актыўна ствараюць, у Беларусі няшмат.

Па словах Івана, іх каля 70 на ўсю краіну.

### Як Куранец стаў часткай сямейнай гісторыі Арцімовічаў

Карані Івана Арцімовіча, кіраўніка пленэру і майго асноўнага субяседніка, з Куранца. Тут нарадзіўся яго бацька, вядомы беларускі скульптар, **Анатоль Арцімовіч.**

Калі я даведалася пра гэта, адразу захацелася распытаць Івана пра дзіцячыя ўспаміны, звязаныя з Куранцом, пра школьныя канікулы, праведзеныя тут у бабулі. Але чакала мяне зусім іншая гісторыя. Аказваецца, на Вілейшчыне майстар упершыню.

**Бацька Івана сапраўды нарадзіўся ў Куранцы перад самай вайной.**

І з яе пачаткам разам з маці, бабуляй Івана, з'ехаў у эвакуацыю ў Расію. А дзед **Яфім** застаўся.

Ён быў буйным партыйным работнікам ў Вілейскай вобласці, якая тады існавала. У 1943 годзе дзеда забілі за ўдзел у падполлі. Адбылося гэта, верагодна, у Куранцы. Тут дзед і пахаваны.

Бабуля з сынам Анатолем у Куранец пасля вайны не вярнулася. З эвакуацыі адразу падаліся на Чэрвеншчыну. А Куранец і Вілейка засталіся ў сямейнай гісторыі.

Часу на стварэнне скульптур, па словах майстроў, крытычна мала. І сапраўды, пакуль каменныя глыбы на тэрыторыі каледжа мала падобныя на мастацкія творы.

І ўсё ж майстры запэўнілі, што абавязкова паспеюць да 26 чэрвеня – дня заканчэння пленэру.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Аўтар галерэі на сметніцы стварыў галерэю на пад'ездзе

МАЛАДЗЕЧНА

**Адкрыццё па вуліцы Янкі Купалы, 110 мастаком Bazinato выклікала вялікі рэзананс сярод маладзечанцаў.**

Многія выказваліся, што хваляваліся, што карціны знішчаць; іншыя захапляліся, што мастак здолеў рэалізаваць такі смелы і цікавы праект.

Галерэя не пратрымалася і сутак, карціны дзесяці сучасных беларускіх мастакоў расхапілі адразу ж, як са сметніцы разышліся гледачы і пачало цямнець.

Літаральна праз два дні пасля гэтага на пад'ездзе дома па Янкі Купалы, 110 з'явіліся карціны.

– Лёс іх больш шчаслівы, – расказвае жыхарка дома **Ганна Крывец**. – Ужо два месяцы іх ніхто не чапае. Ды і як знішчыць такую прыгажосць.

Жыхары былі ўпэўненыя, што аўтар іх Bazinato. Мы высветлілі – над работамі працавалі таксама суседзі мастака **Эдуард Купчунас** і **Дзяніс**.

– З'яўленне карцін на пад'ездзе ніякім чынам не звязанае з галерэяй на сметніцы, – расказвае творца. – Проста ішоў дождж, настрой быў не асабліва добры, з Эдуардам і Дзянісам мы пілі чай, размаўлялі; падумалі, чаму б не намаляваць на пад'ездзе.

Работы стварылі літаральна за некалькі гадзін.

Bazinato належыць малюнак, дзе птушка і кот з крыламі сядзяць у гняздзе; Дзянісу – саву на галінцы, а Эдуард зрабіў карціну "Свабодная энергія", на ёй кола, у цэнтры якога расліна.

– Гэтыя работы – хутчэй спроба, узаемадзеянне з уладамі, іх рэакцыя на нашу творчасць, – тлумачыць Эдуард. – Калі рэакцыя будзе адэкватнай, то, канешне, памаляваць заўсёды ў радасць.

– На "Парашках" будуць з'яўляцца новыя работы, – упэўнівае Bazinato. – Галоўнае, каб на гэта быў час. Летам амаль кожная гадзіна распісаная па хвілінах, запланавана шмат розных мерапрыемстваў, доўгі час мяне ўвогуле не будзе ў горадзе.

Таму цалкам магчыма, што на наступны раз ваш пад'езд аздобіць мастак Bazinato.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**



**Жыхарка дома №110 па вуліцы Янкі Купалы Ганна Крывец побач з карцінай Эдуарда Купчунаса "Свабодная энергія". Фота забяспечанае Ганнай КРЫВЕЦ.**

# Бальшавіцкая правакацыя ў Маладзечне?

**Такое пытанне не першай старонцы задае сваімі чытачам аўтар перадавіцы ў Віленскай газеце “Słowo” за 24 верасня 1938 года. Але…**

Якое здарэнне ў Маладзечне амаль 80-гадовай даўніны скаланула не толькі ўсю Віленшчыну, але і стала цэнтрам увагі ўсіх тагачасных польскіх СМІ? Піша краязнаўца з Глыбокага **Кастусь Шыталь.**

Ноччу з 17 на 18 жніўня 1938 года, каля 1 гадзіны 50 хвілін, Маладзечна скалануў моцны выбух. Гук быў чутны ва ўсім горадзе, а ў некалькіх будынках пры вуліцы Пілсудскага выбіла вокны.

Была ўзарваная праваслаўная капліца Аляксандра Неўскага. Зарад дынаміту вагой больш як дзесяць кілаграмаў цалкам развалій старыя муры. Капліца была збудаваная ў 1776 годзе як каталіцкая, пасля паўстання 1863 года царскія ўлады адабралі яе і аддалі праваслаўным.

У міжваеннай Заходняй Беларусі адносіны паміж праваслаўнай супольнасцю і польскай адміністрацыяй былі напружаныя. Але царквы ніхто яшчэ не ўзрываў. Грамадства блыталася ў здагадках, віленская газета “Słowo” (№231, 24 жніўня 1938 года) прысвяціла здарэнню ў Маладзечне першую паласу.

Урэшце, таямніца выйшла навонкі. 27 лютага 1939 года ў Віленскім Акруговым судзе пры зачыненых дзвярах была разгледжаная справа аб падрыве капліцы.




Капліца была збудаваная ў 1776 годзе як каталіцкая.

**Следства высветліла, што выбух арганізаваў каталіцкі святар Міхаіл Завадскі, капелан маладзечанскага вайсковага гарнізона.**

Гэты святар раней служыў у грэка-каталіцкім абрадзе. Потым перайшоў на рымскі абрад. У Маладзечне ён заняўся “місіянерствам”, спрабаваў навярочваць праваслаўных у каталіцтва. За год да здарэння спрабаваў адабраць у праваслаўных тую самую капліцу.

Ксяндзу дапамагаў 32-гадовы Антоні Владарчык, родам з-пад Познані, які працаваў ў Маладзечне на прапітцы хімікатамі чыгуначных шпалаў. Належаў да “Саюза Маладой Польшчы” – маладзёвай арганізацыі пры праўрадавым “Аб’яднанні нацыянальнага адзінства” (OZN). У 1932 годзе быў караны за крадзеж. Антоні заклаў выбухоўку пад капліцу. У акцыі ўдзельнічалі і “іншыя неўстаноўленыя асобы”, якіх следчыя ці то не знайшлі, ці то не стараліся шукаць.




Фрагмент карты 1926 года. Стрэлка ўказвае на капліцу.

**Захопленыя поспехам, кс. Міхал Завадскі і Антоні Владарчык уноч на 30 жніўня 1938 года ўзяліся руйнаваць яшчэ адну праваслаўную капліцу, пры вуліцы Сянкевіча.**

На гэты раз вырашылі дзейнічаць ціха – разваліць капліцу пры дапамозе 12-метровай вяроўкі, прычэпленай да грузавога аўтамабіля. Вось з гэтай вяроўкай Владарчыка і арыштавалі паліцыянты.



Жнівень 2017. Паблізу гэтага дома месцілася капліца. Насупраць – аўташкола на скрыжаванні сённяшніх вуліц Віленскай і Местачковай.

Тое, што Владарчык дзейнічаў “пад уплывам іншых асобаў”, суд палічыў за абставіны, якія змяншаюць віну. Суд прызначыў яму пакаранне ў выглядзе аднаго года зняволення. У судовым прысудзе, які надрукавала газета “Słowo” (№58, 28 лютага 1939 года), нічога не сказана пра пакаранне ксяндза Завадскага. Атрымліваецца, што яго ніяк не пакаралі?

Праз дзесяць год імя ксяндза Міхала Завадскага ўсплыло ў Польшчы ў групе “ксяндзоў-патрыётаў”, якую падтрымлівалі камуністычныя спецслужбы, спадзеючыся зрабіць раскол у Касцёле. Пасля адной заявы, дзе ён паабяцаў служыць “найперш Польшчы, а потым Касцёлу”, духоўная ўлада забараніла яму выконваць святарскую службу.

**Кастусь ШЫТАЛЬ,**
**Глыбокае.**

**P.S.** На карце і мясцовасці рэдакцыі дапамаглі зарыентавацца публікацыі краязнаўцы **Уладзіміра САДОЎСКАГА.**

**КАЛЯНДАР**

## 19 ЖНІЎНЯ

**1925 год.** У Вільні пачалося выданне газеты “Жыццё Беларуса”. Выступала ў абарону правоў беларусаў, у тым ліку права на родную мову. Выходзіла 3 разы на тыдзень, апошні нумар выдадзены 12.11.1925. З 20 выдадзеных нумароў 5 канфіскаваныя польскімі ўладамі.

**1991 год.** Спроба дзяржаўнага перавароту ў СССР. Змоўшчыкі адхілілі ад улады Міхаіла Гарбачова і заявілі аб увядзенні надзвычайнага становішча.

## 20 ЖНІЎНЯ

**1937 год.** Польскімі ўладамі забароненая дзейнасць Таварыства беларускай асветы, культурна-асветная арганізацыя ў Заходняй Беларусі. Дамагалася адкрыцця беларускіх школ, выступала супраць паланізацыі, асуджала палітычныя рэпрэсіі ў БССР.

## 22 ЖНІЎНЯ



**1861 год.** Нарадзіўся Ігнат Буйніцкі (1861 – 1917). Беларускі акцёр, рэжысёр, тэатральны дзеяч, стваральнік нацыянальнага прафесійнага тэатра. Падчас Першай сусветнай вайны ў 1917 годзе накіраваўся на Заходні фронт, быў на вайсковай службе ў Маладзечне. Памёр на сцэне ў час рэпетыцыі, займаючыся салдацкай мастацкай самадзейнасцю непадалёк ад Палачанаў 22 верасня 1917 года. У Маладзечне ў гонар Буйніцкага названая вуліца.

## 23 ЖНІЎНЯ



**100 гадоў** з дня нараджэння Пімена Панчанкі, беларускага паэта (1917 – 1995).

## 24 ЖНІЎНЯ

**1906 год.** Нарадзіўся Юльян Саковіч (фальварак Баўдуры Ашмянскага павета). Беларускі грамадска-палітычны дзеяч. У 1929 годзе прымаў удзел ў выданні ў Вільні часопіса “Вольная думка” – орган беларускага студэнцтва. Напярэдадні 2-й сусветнай вайны арыштаваны і зняволены ў Бяроза-Картузскім канцэнтрацыйным лагеры.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# Валожынскім мёдам частаваўся Па

МАЛАДЗЕЧНА, ВАЛОЖЫН

**Пчолы, як аказалася, яшчэ тыя "гарачыя штучкі". Таму што ворагаў, вос ці шэршняў, яны забіваюць так: аблепліваюць сваім гарачым цельцам ахвяру, яна і згарае.**

Пчаляр **Вячаслаў** ведае пра жыццё пчол шмат чаго, бо ўжо больш за 15 гадоў займаецца імі.

У Вячаслава каля 30 вулляў у Подберазі, што на Валожыншчыне. Таму ў каго, як не ў яго, трэба было запытацца, як адрозніць сапраўдны мёд ад падробкі, чаму нельга верыць тым пчалярам, якія прадаюць ліпавы мёд і чаму пчолы думаць, што людзі – гэта мядзведзі.

Першае, што трэба ведаць, што ўся гэта "замануха" на кірмашы, дзе вам прапануюць 100 гатункаў мёду – гэта чыстай вады падман.

– Вы бачылі, колькі фарбавальнікаў цяпер прадаецца ў крамах? – распавядае Вячаслаў. – Можна пафарбаваць мёд у жоўты, карычневы, чырванаваты колер. Дадаць штучных араматызатараў – вось вам і 20 новых гатункаў мёду. Але гэта ўжо будзе фікцыя, а не мёд.

**У Беларусі толькі тры віды мёду.**

– Гэта майскі, з большага рапсавы, летні, кветкавы і яшчэ з грэчкі. Яшчэ ёсць падзевы, з мядвянай расы. Бачылі, ліпкая такая на машынах бывае заўважная. А вось ліпавага мёду ў Беларусі амаль няма. Глядзіце. Летні медазбор доўжыцца паўтара месяца, а ліпа цвіце 9 дзён. Яго нельга адняць асобна. Мёд можа пахнуць ліпай, але ліпы ў такім мёдзе будзе каля 10%. Таму, калі вас настойліва пераконваюць у тым, што гэта чыста ліпавы мёд, верце, гэта сапраўды "ліпа".

### Мёд можа не цукравацца гадамі

Аматары мёду, бывае, скардзяцца на тое, што мёд хутка становіцца цвёрдым, або наадварот, хвалююцца, калі мёд доўгі час не цукруецца.

**– Як жа павінен паводзіць сябе сапраўдны мёд?**

– Гэта залежыць і ад раслін, з якіх сабраны мёд, і ад надвор'я.

**Мёд з крушыны ніколі не цукруецца.**

У адной і той жа мясцовасці ў розныя гады мёд можа зацукравацца за тыдзень, а можа і не цукравацца некалькі месяцаў. Напрыклад, мёд з Налібокскай пушчы амаль ніколі не цукруецца. Не цукруецца мёд і з вёскі Беражок, што на Вілейшчыне.

**А чысты мёд з верасу становіцца як кісель.**

А вось праверыць, ці сапраўдны мёд, могуць толькі спецыялісты ў лабараторыі, бо ніхто дакладна не скажа, колькі ў мёдзе кветкавага пылку.

**Паўлітра мёду каштуюць 6 рублёў.**

Тое, што мёд – гэта крыніца вітамінаў – гэта вядома многім. Але для мяне было адкрыццё, калі Вячаслаў сказаў, што ў мёдзе няма радыяцыі, наогул.

– Праўда, нават тыя вуллі, якія знаходзяцца ў адселеная зоне ў Чарнобыле. Там збіралі мёд, у нектары радыяцыі няма. У кветках ёсць, а ў перапрацаваным пчоламі мёдзе няма.

Калі вы набываеце мёд у сотах, расказвае вопытны пчаляр, гэта зусім не значыць, што вы купляеце 100% мёд.

– Ну глядзіце, у мэтах рэкламы я прыношу на базар соты з мёдам. Вы, канешне ж, думаеце, што ён сапраўдны і адрываеце яго з рукамі. Што адбываецца насамрэч? Я стаўлю трохлітровы слоік у вулей з цукровым сіропам. Пчолы разносяць яго па сотах. Я прадаю як мёд. Але гэта не нектар, гэта проста цукровы сіроп. Таму парада ўсім, хто набывае мёд на базары, купляйце яго ў знаёмых, правераных прадаўцоў.

### Пчала думае, што вы мядзведзь, таму і джаліць

Пчолы, вядома, яшчэ тыя агрэсары. Хто з нас не хадзіў з фінгалам, які паставілі пчолы. Як жа пчаляры штодзень ходзяць да вулляў?

– Вось не трэба. Паміраць ад таго, што пчала ўжаліла, для яе зусім не характэрна. Пчала джаліць, таму што бароніцца. На пасеку я хаджу толькі ў закрытым адзенні. Ёсць у мяне знаёмыя, якія хваляцца, што ходзяць на пасеку з адкрытым тварам, ну дурні, што скажаш. Пчала ж тады наадварот паводзіць сябе агрэсіўна.

**Яшчэ пчолы злыя, калі дрэннае надвор'е, калі няма медазбору.**

– А калі пчала залезе да вас у валасы і пачынае гусці, – расказвае Вячаслаў, – яна думае, што вы калматы мядзведзь і хоча вас прагнаць ад свайго вулля. Паспрабуйце апрануць футра і прайсціся каля вулля, на вас адразу налятуць 1000 пчол. Не любяць яны валасатых.

Яшчэ пчолы не любяць моцных пахаў: алкаголю і парфумы.

– Пагэтаму я хаджу на пасеку з голымі рукамі, якія папярэдне працёр меліссай. На валяр'янку пчолы не рэагуюць, на пах цыбулі.

А дым пчолы на ўзроўні інстынкту ўспрымаюць як пажар.

– Яны тады таксама становяцца смірнымі, набіраюць поўны зоб мёду і рыхтуюцца пакідаць вулей. З той жа прычыны рой, які выходзіць з вулля, амаль не джаліць. Бо жывот поўны мёду не дае пчале сагнуцца, каб ужаліць.

Расказваў Вячаслаў і пра тое, што пароды пчол таксама бываюць розныя.

– Рускія, башкірскія, напрыклад, яны злыя. Бо лета кароткае, яны спяшаюцца хутчэй назбіраць мёду на зіму. І вельмі злуюцца, калі ім перашкаджаюць. А вось украінскія пчолы, карпатка напрыклад, больш добрыя. Яны думаюць, што наперадзе яшчэ сезон сланечнікаў, потым грэчкі, не спяшаюцца і не нервуюцца.

І зноў-такі, кажа спецыяліст, немагчыма прытрымлівацца толькі адной пароды пчол.

– Я калі набываю матку, каўказскую напрыклад, я саджу яе ў асобны вулей. А калі пчолы пачынаюць раіцца, яны змешваюцца і парода губляецца.

**Дарэчы, адна пчала жыве прыкладна 45 сутак.**

У пчол, як вядома, вельмі дакладны ўнутраны навігатар. Дастаткова пасунуць вулей на метр убок, і пчала яго ўжо не нойдзе.

### Мёд да Папы

Пакуль спадар Вячаслаў расказваў пра тое, якім чынам працуе медагонка, да яго падыходзіць жанчына і купляе тры слоікі мёду.

– Яна заўсёды ў мяне бярэ мёд для памідораў, каб кансерваваць. І на пірагі бяруць, і на масаж купляюць. Дзяўчына прыходзіла купляла мёд на маскі для твару. Казала, выходзіць танней, чым карыстацца крэмамі. За якасць свайго мёду Вячаслаў адказвае на ўсе 100 %, бо мёд з Подберазі ездзіў нават да Папы Рымскага.

Сын стрыечнай сястры маёй жонкі вучыцца ў Польшчы на ксяндза.

І яны з Польшчы гады чатыры назад ездзілі на прыём да Папы Рымскага. Сказалі, кожнаму з радзімы захапіць нешта сваё, унікальнае. Я яму даў рамку з мёдам і пяргой.

### Пчолы холаду не баяцца, яны баяцца голаду

Апошні медазбор у Беларусі заканчваецца ў жніўні.

– Адцвітаюць травы,кветкі, але яшчэ цвіце асот. Гэта, бадай, апошняя кветка, з якой пчолы збіраюць мёд. У жніўні медазбору ўжо амаль няма. Пасля гэтага пчолы рыхтуюцца да зімы.

Каля 20 кілаграмаў корму пчолам у вуллях пакідаецца на зіму. Варыцца цукровы сіроп. І пчолы зімой падкормліваюцца.

– Бачыў я, як пчолы зімуюць наўпрост у адкрытым дупле. Яны не мерзнуць. У вуллі ж, акрамя сіропу, ставяцца лекі ад кляшчоў. Здавалася б, пчала маленькая, а на ёй яшчэ могуць жыць кляшчы.

**– Вячаслаў, вы так усё падрабязна расказваеце, вы, напэўна, ездзіце на семінары розныя па пчалярстве?**

Вячаслаў адмахваецца:

– Ды не. Каб я мог на гэтыя семінары пчол сваіх паслаць, каб паслухалі, магчыма, і быў бы толк. А я ж не прыеду, не скажу ім: вось мяне навучылі, што вы павінны іначай мёд даваць. Пустое гэта.

**Фота аўтара.**



**Наталля ТУР**
natali.turenok
@gmail.com
8-044-566-26-99
(працоўны)



Цяпер Вячаслаў прадае мёд летняга медазбору. Ён пакуль яшчэ не зацукраваўся.



Пчаляр Вяча
полі, дзе ста

# ла Рымскі

аслаў жыве ў Чысці, але пасека яго знаходзіцца ў Валожынскім, як кажа гаспадар, экалагічна-чыстым раёне. На тым
яць яго вуллі, калгас не апрацоўвае зямлю. А, значыць, у нектар, што збіраюць пчолы, хімікаты не трапляюць.

● НАВІНЫ

## У школьных сталовых не будзе чыпсаў, сухарыкаў і газіроўкі

У новым навучальным годзе ў школьных сталовых не будзе чыпсаў, вострых сухарыкаў, газіраваных напояў і натуральнай кавы. Піцы і смажанкі ў буфетах будуць прадаваць не часцей за два разы на тыдзень. А карміць школьнікаў каўбасой і сасіскамі рэкамендавана не часцей аднаго дня на тыдзень пры аднаразовым харчаванні. Мэта – сфарміраваць у дзяцей звычку да здаровага харчавання.

Такія нормы замацаваныя ў метадычных рэкамендацыях па арганізацыі харчавання ва ўстановах адукацыі і апублікаваныя на сайце Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю. Ведамства распрацавала іх сумесна з Мінадукацыі і Міністэрствам аховы здароўя.

Таксама ў буфетах абмяжуюць асартымент цукерак, шакаладных батончыкаў, карамелі, дражэ, печыва. Павінна быць не больш за два найменні кожнага віду названых вырабаў. З іншага боку, у асартыменце кафэ і сталовых установ адукацыі абавязкова павінны быць сокі, нектары з садавіны і агародніны, малочныя і кісламалочныя прадукты, гематаген, мармелад і зефір.

Пры гэтым у сталовых і кафэ для дзяцей і моладзі харчаванне можа быць арганізаванае паводле сістэмы шведскага стала, а карміць дзяцей можна каўбасамі і варанымі сасіскамі вышэйшага і першага гатункаў і не больш за адзін раз на тыдзень пры аднаразовым прыёме ежы.

Ва ўстановах прафесійна-тэхнічнай, сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай адукацыі, калі навучэнец купляе абед па меню, то ў яго нельга ўключаць аднайменныя стравы і гарніры на працягу двух дзён запар.

**Паводле tut.by**

## Расія часова абмежавала ўвоз малочных прадуктаў з Вілейкі

ВІЛЕЙКА

У тварагу, што пастаўлялі з Вілейкі, знайшлі антыбіётык лінкаміцын.

Ад 10 жніўня Рассельгаснагляд абмежаваў пастаўкі малочных прадуктаў з Вілейскага філіяла Маладзечанскага малочнага камбіната.

Федэральная служба па ветэрынарным і фітасанітарным наглядзе паведамляе пра выпадкі паступлення ў Расію малочнай прадукцыі з парушэннем ветэрынарна-санітарных патрабаванняў і нормаў Еўрасаюза і Расійскай Федэрацыі.

Апошнім часам такія выпадкі здараюцца сістэматычна, паведамляе сайт Рассельгаснагляду.

У сувязі з паўторным выяўленнем рэшткаў лінкаміцына ў тварагу, Рассельгаснагляд ад 10 жніўня 2017 года часова абмежаваў пастаўкі малочных прадуктаў з Вілейкі.

**Паводле fsvps.ru.**

## Паставяць дадатковыя кантэйнеры для пластыкавых бутэлек

ВІЛЕЙКА

Як вырашыць праблему напоўненых кантэйнераў?

У вілейскім ЖКГ праблему прапануюць вырашыць з дапамогай дадатковых кантэйнераў для пластыкавых бутэлек.

Спецыялісты правялі назіранне і высветлілі, што ў раёнах з вялікімі шматкватэрнымі дамамі пасля выхадных – шмат адходаў у выглядзе бутэлек з пластыку.

– Мы ўжо навучыліся сартаваць смецце, – кажа спецыяліст па інфарматызацыі праекта "Паляпшэнне якасці работы ЖКХ" **Вольга Шляпо**. – Але ў нашых магчымасцях пазбегнуць завалаў адыходамі пластыку.

Дадатковыя кантэйнеры ўстановяць у Вілейцы па вуліцах Незалежнасці, Талстога, у мікрараёне "Зеніт".

А яшчэ, нагадваюць спецыялісты ЖКГ, перш чым укінуць бутэльку ў кантэйнер, варта яе змяць, каб заняць менш месца.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




Пасля выхадных смеццевыя кантэйнеры ў Вілейцы часам выглядаюць вось так.

*Аўтарская калонка*

Сяргей УЛАДЫКА



## Маладзечанцы нарэшце ўбачылі іншую каманду

Яны зрабілі работу над памылкамі! Што стала асноўнай матывацыяй – невядома.

Цалкам магчыма, гульцы адчулі соль слоў галоўнага трэнера, сказаных падчас нядаўняга інтэрв'ю "Рэгіянальнай газеце" і да іх, нарэшце, прыйшло разуменне, што нават на ўзроўні другой лігі трэба гуляць на мяжы магчымасцяў, тады футбол аддзячыць вынікам. Так, ці інакш, але ў суботу на "Гарадскім" гаспадарыла зусім іншая каманда. Зусім не тая, якую мы бачылі тыднем раней.

Пад гарачымі промнямі сонца, што радавалі жыхароў горада ў выхадныя, нашы футбалісты далі жару ў гульні супраць "Энергетыка-БДАТУ". Першыя дваццаць хвілін матчу ўмясцілі ў сябе процьму галявых момантаў, што не магло не падабацца гледачам. Спачатку госці двойчы прымусілі сур'ёзна працаваць **Галгоўскага**, а затым за справу ўзяліся **Кошаль, Макараў і Талькоўскі.** Сваімі яркімі, актыўнымі дзеяннямі яны прымусілі трашчаць па швах абарону прыезджай каманды.

**Сяргей Кошаль** быў безумоўна лепшым гульцом. Ён рабіў усё па футбольнай школе: там, дзе трэба было навязаць барацьбу саперніку, прымусіць яго памыліцца – прэсінгаваў, а дзе трэба было адкрыцца, зрабіць рывок – паскараўся ў напрамку свабоднай зоны. І ўсё гэта з велізарным жаданнем і гульнявым запалам. Нават у другім тайме ён не супакойваўся і раз за разам "тузаў" сапернікаў рыўкамі, рабіў абвастральныя перадачы і гучна спрачаўся з напарнікам па групе атакі Лаворам пры абмеркаванні гульнявога эпізоду.

За самааддачу лёс узнагародзіў яго двума галамі, забітымі на 4-й і 16-й хвілінах. А на 9-й вызначыўся **Юры Бугай**, працаздольнасцю якога можна было захапляцца і ў папярэдніх матчах.

Так прыйшла і да каманды, і да заўзятараў доўгачаканая перамога. Няхай застаўся непрыемны асадак ад другой паловы матчу, няхай зноў прапусціў **Субач**, які не здолеў справіцца з адзіным за ўвесь тайм ударам у створ сваіх варот, але ўражанне ад усёй гульні прымушае чакаць бліжэйшую суботу з верай у нашу каманду і надзеяй на добры вынік.

**Гуляем з футбольным клубам "Чысць" 19 жніўня на гарадскім стадыёне. Пачатак матча а 18 гадзіне.**

**Турнірная табліца**

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| ЮАС | 15 | 11 | 4 | 0 | 33-8 | 37 |
| Чысць | 15 | 10 | 2 | 3 | 43-17 | 32 |
| Клецк | 15 | 10 | 0 | 5 | 34-23 | 30 |
| Вікторыя | 15 | 9 | 3 | 3 | 33-15 | 30 |
| Маладзечна | 15 | 8 | 4 | 3 | 32-16 | 28 |
| Спадарожнік | 15 | 7 | 3 | 5 | 30-17 | 24 |
| Ашмяны | 15 | 9 | 1 | 5 | 56-20 | 23 |
| Узда | 15 | 5 | 3 | 7 | 28-33 | 18 |
| СМІ-Аўтатранс | 15 | 5 | 2 | 8 | 24-33 | 17 |
| Зборная ТФ | 15 | 4 | 3 | 8 | 23-41 | 15 |
| Энергетык-БДАТУ | 15 | 4 | 2 | 9 | 24-31 | 14 |
| Любань | 15 | 4 | 2 | 9 | 22-43 | 14 |
| Сдюшор-8 | 15 | 2 | 1 | 12 | 12-50 | 7 |
| Сдюшор-3 | 15 | 2 | 0 | 13 | 12-59 | 6 |

● ЛЕПШЫЯ ФУТБАЛІСТЫ ЛЕПШАГА ГОРАДА

# Прохар Новікаў: "Не жанаты, бо ніхто не хоча выходзіць за мяне"

МАЛАДЗЕЧНА

**Сённяшні наш госць – абаронца каманды "Маладзечна ДЮСШ 4", майстар вышывання крыжыкам – Прохар Новікаў.**



Фота забяспечана Прохарам НОВІКАВЫМ.

**Прохар Новікаў на полі заўважны высокім ростам і яркім колерам валасоў. Аднак мянушка "рыжы" дасталася Сяргею Лавору. Прохара Новіка называюць больш пяшчотнай мянушкай – Проша.**

Канешне, пра вышыванне крыжыкам – гэта жарт. Але менавіта так адказаў Прохар на пытанне пра яго захапленні, акрамя футбола.

А пагутарыць з Прохарам напярэдадні матча з камандай з Чысці было лагічным, бо цэлы сезон Прохар Новікаў адгуляў у гэтай камандзе.

**– Прохар, прызнайцеся, Чысці падыгрываць будзеце?**

– Канешне, не, – смяецца Прохар і расказвае: – у чысцінскай камандзе я апынуўся ў мінулым годзе, пасля таго як у Маладзечне не атрымлівалася наведваць трэніроўкі, гэта і стала прычынай пераходу ў Чысць. У Маладзечне заўсёды быў і ёсць сур'ёзны падыход да трэніровачнага працэсу, у Чысці з гэтым было трохі прасцей. У той перыяд свайго жыцця я пераязджаў у Мінск, і мне было больш зручна трэніравацца і гуляць у Чысці. Мінулагадовы сезон пакінуў толькі станоўчыя эмоцыі. Было прыемна мець справу з усімі футбалістамі і трэнерамі каманды.

**– "Маладзечна" пакуль уступае Чысці па размеркаванні ў турнірнай табліцы? У чым прычына, як вы думаеце?**

– Чаго не хапае камандзе, думаю, лепш відаць трэнерскаму штабу. На полі гуляе каманда, як у абароне так і ў нападзенні! Нельга сказаць, што абарона лепш ці горш нападзенне, можна сказаць што каманда не дастаткова добра гуляе пры абароне ці пры атацы. Што тычыцца канкрэтных гульцоў, то тут зноў жа вырашаць трэнерскаму штабу ...

**– Распавядзіце пра сябе. Чаму выбралі футбол заняткам жыцця?**

– Да 14 гадоў я жыў у Маладзечне і гуляў у мясцовай ДЮСШ, у 15 гадоў з'ехаў у Мінск, патрапіў у школу мінскага "Дынама", займаўся там да 18 гадоў. З дзяцінства вельмі любіў футбол, бачыў сябе толькі ў гэтым спорце і ні ў якім іншым.

**– Адкуль імя такое нячастае – Прохар?**

– Прохарам мяне назвалі ў гонар прадзеда па бацькавай лініі, Прохара Цімафеевіча.

**–Акрамя футбола чым жывеце? Захапляецеся?**

– Люблю слухаць музыку, прымушаю сябе чытаць, хоць, прызнаюся, не заўсёды паспяхова. Вышыванне– гэта мой канёк... Жартую. Хутчэй я люблю актыўны адпачынак: прагулкі, кіно, сустрэчы з сябрамі, падарожжы ...

**– Які ваш любімы горад?**

– Вельмі люблю Маладзечна, не разумею, як можна не любіць родны горад! Любімае месца ў ім, вядома, – гарадскі стадыён. А ў самымсамым любімым горадзе ў свеце я яшчэ не быў. А з тых месцаў дзе я быў, мне вельмі спадабалася Аланія – мора, горы, клімат. Наогул, я вельмі хацеў бы жыць ля мора або акіяна.

**– Прохар, а чаму ў вас яшчэ няма другой палавінкі?**

– У сэнсе, чаму не жанаты? Ніхто не згаджаецца выйсці за мяне.

**Наталля ТУР.**

## Шостая запар перамога "Ашмян"

МАЛАДЗЕЧНА, АШМЯНЫ

Пятнаццаты тур чэмпіянату Беларусі па футболе ў другой лізе прайшоў 12 жніўня. "Чысць" дома адолела "СМІаўтатранс" са Смалявіцкага раёна 1:0. "Маладзечна ДЮСШ-4" было мацнейшым за "Энергетик-БДАТУ" з Мінска – 3:1. ФК "Ашмяны-БДУФК" атрымаў шостую перамогу запар. На гэты раз дома над моцнай камандай з Клецка 3:0.

"Чысць" займае другое месца, на пяць ачкоў адстае ад лідара "ЮАС" з Жыткавічаў. "Маладзечна ДЮСШ-4" ідзе пятым, "Ашмяны-БДУФК" – сёмымі.

Нападаючы "Ашмяны-БДУФК" **Дзмітры Купнеўскі** – другі ў спісе бамбардзіраў турніру. На яго рахунку – 17 галоў.

## "Смаргонь" прайграла ў драматычным матчы

СМАРГОНЬ

Пасля доўгай серыі няўдач у 16-м туры чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе "Смаргонь" нарэшце атрымала перамогу: выйграла ў "Энергетыка-БДУ" 1:0. Замацаваць поспех смаргонцы паспрабавалі ў наступным матчы з "Баранавічамі", які адбыўся 12 жніўня ў Смаргоні.

Пасля першага таму смаргонцы вялі з лікам 2: 0 (галы забілі **Уладзіслаў Яцкевіч** і **Аляксей Рудзянок**). У другім тайме былы гулец "Смаргоні" **Сяргей Крот** адквітаў адзін мяч – 2:1. Але гаспадары зноў павялічваюць перавагу: на 65-й хвіліне **Аляксандр Талканіца** робіць лік 3:1. Другая палова тайма для каманды з нашага рэгіёна выдалася няўдалай. Адразу баранавіцкія гульцы за сем хвілін забілі два галы і зраўнялі лік. А на 87-й хвіліне "Баранавічы" вырываюць перамогу, прычым да гэтага Сяргей Крот не забіў пенальці ў вароты гаспадароў. Такім чынам, смаргонцы прайграюць у драматычным матчы 3:4.

"Смаргонь" займае ў турнірнай табліцы перадапошняе, 15-е месца. Добры шанец узяць ачкі ёсць у наступным туры: у гасцях 19 жніўня смаргонцы згуляюць з "Нёманам-агра", які ідзе апошнім.

**Аддзел інфармацыі.**



# Крыжаванка ад "Рэгіянальнай газеты"



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Вырабы з прыроднай гліны
5. Трэцяе… Назва твора Кузьмы Чорнага.
7. Прозвішча купца, які ў канцы 19 стагоддзя валодаў вінакурна-дражжавым заводам у Ашмянах.
8. Прозвішча разьбяра па дрэве з Купы Мядзельскага раёна.
10. Жаночае ўпрыгажэнне.
11. Традыцыйная сялянская пабудова для захоўвання збожжа.
12. Сапраўднае прозвішча пісьменніка Змітрака Бядулі.
13. З верша Максіма Танка. Што цяжэй за ўсё на свеце? – Прайсці праз …
15. Прозвішча беларускага гісторыка, археолага, краязнаўца, ураджэнца і жыхара Маладзечаншчыны.
17. Пасёлак гарадскога тыпу.
22. … – усяму час. Назва свята.
23. Хлебабулачныя вырабы, сімвал Смаргоні.
24. У Валожыне ў яе гонар пасадзілі алею.
26. Помнік яму стаіць на Старым Месцы ў Маладзечне.
28. Горная смала.
29. Керамічны выраб для абліцоўкі печаў.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
2. Ліст паперы.
3. Пустая, легкадумная жанчына.
4. Выраб з пшанічнай мукі ў выглядзе тонкіх высушаных палосак цеста.
6. Даўнейшая мужчынская і жаночая вопратка з доўгімі поламі.
9. Слабаалкагольны напой з мёду, спецый і зёлак.
11. Самец качкі.
14. Бакал.
16. Дробныя пласцінкі, якімі пакрытае цела рыб і яшчарак.
18. Мястэчка на Валожыншчыне, дзе нарадзіўся навуковец, філолаг Вячаслаў Рагойша.
19. Канец, смерць.
20. Старажытнае прадпрыемства па вытворчасці шкла.
21. Гушкалка.
23. Прозвішча скульптара, ураджэнца Куранца
25. Валокны драўніны, якія не даюць караедам пашкодзіць дуб.
27. Сельскагаспадарчая машына для рэзкі саломы і травы на корм жывёле.
28. Прэснаводная драпежная рыба сямейства трасковых з падоўжаным целам і плямістай скурай.
30. Вучань смаргонскай акадэміі.

## АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ З №32

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Екат. 3. Пудзіла. 7. Табун. 8. Стрыбог. 11. Хлапечнік. 13. Зямля. 14. Фінка. 15. Танк. 16. Ядрыца. 18. Шуба. 19. Вільяна. 22. Залессе. 23. Крэва. 25. Пагоня.
**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Цётка. 2. Елуп. 4. Дзевер. 5. Зеўс. 6. Дуб. 7. Тайм. 9. Шайтан. 10. Юшка. 11. Хабар. 12. Вянок. 16. Ядловец. 17. Пуанты. 20. Ліннік. 21. Мядзёлка. 24. Віка. 26. Баран.

## ГАРАСКОП 11-17 ЖНІЎНЯ



**АВЕН.** Пачнуць паступаць разнастайныя прапановы, якія падштурхнуць развіваць творчыя магчымасці. Нават узнікнуць думкі, каб распачаць уласную справу. Больш кантактуйце з пазітыўнымі цікавымі людзьмі, так і з настроем, і са здароўем будзе ўсё ў парадку.



**ЦЯЛЕЦ.** Вас чакае нямала любоўных прыгод, праз якія на некаторы час прыйдзецца забыцца на кар'еру, сяброў і творчае самапраяўленне. Не закідвайце справы. Тым больш, час спрыяльны, каб уважліва прыглядзецца да калег, да тых, з кім збіраецеся супрацоўнічаць.



**БЛІЗНЯТЫ.** Наперадзе шмат радыкальных перамен. Некаторыя з Блізнятаў з'едуць з роднага горада ў іншы альбо нават у іншую краіну.Не выключана, што на пастаяннае месца жыхарства. На рабоце чакае многа камандзіровак альбо раз'ездаў па гораду. Уразяць новыя мясціны і знаёмствы з новымі людзьмі.



**РАК.** Будзьце больш упэўненымі ў сваіх сілах, толькі ў гэтым выпадку можна дасягнуць поспеху. Працы чакаецца многа, аднак не цягніце ўсё ў адзіночку. Толькі калектыўная праца прынясе прыбытак і дапаможа зрабіць кар'еру ў канцы лета. Эканомце грошы. Не выключана, што ў канцы месяца яны ох як спатрэбяцца.



**ЛЕЎ.** Настройцеся на рабочую хвалю і вазьміцеся за важныя справы. Будзе складана пераадолець лянноту і апатыю. Памятайце, што людзі – у большасці сваё лянівыя. Але ўзніміцеся над сваімі слабасцямі. У сям'і будзьце пяшчотнымі і клапатлівымі, блізкія ацэняц і парадуюць узаемнай цеплынёй і каханнем.



**ДЗЕВА.** Не ўскладайце праблемы на чужыя плечы, рашайце самастойна. Толькі такім чынам можна дасягнуць іх хутчэйшага вырашэння.



**ШАЛІ.** У гэты перыяд будзе падавацца, што грошы проста ліпнуць да вас. Ніколі не выйгравалі ў латарэю? Паспрабуйце купіць білецік, удача на вашым баку.



**СКАРПІЁН.** Работа і кар'ера будуць ісці ўгору, начальства ацэніць вашу працу па заслугах. А вось за асабістае шчасце прыйдзецца пазмагацца. На вашым шляху могуць паўстаць людзі, якія будуць старацца падарваць ідылію ў адносінах з партнёрам. Не нервуйцеся, каб сапернік не выбіў глебу з-пад вашых ног. Толькі спакой дапаможа захаваць усё на ранейшых месцах. Беражыце нервы!



**СТРАЛЕЦ.** Доўгі час вы вагаецеся, наконт змены работы. Не бойцеся змяніць сваё жыццё, лепшае наперадзе. Разам са зменай работы вы адчуеце новы прыток сіл і актыўныя матэрыяльныя паступленні.



**КАЗЯРОГ.** Не расказвайце пра далейшыя планы. Асабліва, калі гэта датычыцца грошаў, работы і блізкіх. Не ссурочце.Для сямейных Казярогаў самы спрыяльны час, каб па-новаму раскрыць адносіны з другой палавінкай. Удзяліце больш увагі каханаму або каханай.



**ВАДАЛЕЙ.** Магчымыя крыўды ў сямейным жыцці, аднак настройцеся на пазітыўную хвалю, толькі ў вашых руках павярнуць сітуацыю да лепшага.



**РЫБЫ.** Вясёлыя вечары ў кампаніі сяброў, блізкіх людзей будуць змяняцца манатоннымі рабочымі днямі. Аднак дзякуючы такому цячэнню рэчаў вы будзеце адчуваць сябе здаровым, бадзёрым і гатовым да новых здзяйсненняў.

**Аліна ЗОРНАЯ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 3 | | | 9 | 8 | |
| | | | | | 7 | | 6 | 5 |
| 4 | 6 | | 9 | | | 7 | | |
| | | | | 2 | | | | 8 |
| 5 | | | | | | | | 6 |
| 8 | | | | 3 | | | | |
| | | 8 | | | 9 | | 4 | 2 |
| 1 | 5 | | 8 | | | | | |
| | 7 | 4 | | | 3 | | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**



## КУДЫ ПАЙСЦІ

### Пройдзе фестываль "Роварны злёт"

**ВАЛОЖЫН**

19 і 20 жніўня на хутары Шаблі ў Валожынскім раёне пройдзе другі міжнародны роварны фестываль "Роварны злёт". Пачатак у 11:00 у суботу і да васьмі вечара нядзелі.

Мерапрыемства аб'яднае раварыстаў з розных куткоў Беларусі, а таксама аматараў двухколавага транспарту з блізкайшага замежжа.

Будзе працаваць некалькі пляцовак: гульнявая, адукацыйная, забаўляльная, музычная. Напэўна, самай рамантычнай часткай стане начны кінапаказ пад зорным небам. Раварысты ацэняць пакатушкі па маршруту "Валожынскія гасцінцы".

Уваход свабодны.

Мерапрыемства праводзяць у рамках праекта "Гарадскі веларух у Беларусі" пры фінансавай падтрымцы Еўрапейскага Саюза.

**Паводле bike.org.by.**

### У Мінску адкрыюць выставу віляйчаніна Міхаіла Куляша

24 жніўня ў мастацкай галерэі "Універсітэт культуры" ў Палацы Рэспублікі адкрыюць выставу мастацкага фота Міхаіла Куляша "www.michas.by.2017".

Міхаіл Кулеш вядомы ў Вілейцы мастак-фатограф, сябар Беларускага грамадскага аб'яднання фатографаў. Яго здымкі можна пабачыць у прасторы інтэрнэта, каляндарах, календары, выпушчаным да 100-годдзя Вілейскага касцёла. Шмат фатаграфій у наборы паштовак "Спадчына Вілейшчыны".

Адрас галерэі: *Кастрычніцкая плошча, 1.* Выстава будзе працаваць ад 11:00 да 19:00.

**Аддзел інфармацыі.**

ISSN 1991-7155
9 771991 715006

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● НАДВОР'Е

**19 жніўня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +20 / +27 | | +20 / +29 | | +20 / +31 | | +16 / +21 | |
| | 744 | ↑ 4 | 742 | ↗ 6 | 738 | ↑ 9 | 742 | → 4 |
| Вільня | +13 / +25 | | +18 / +21 | | +14 / +22 | | +12 / +19 | |
| | 749 | ↑ 3 | 747 | → 5 | 743 | ↘ 3 | 747 | ↗ 7 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 5.58
Захад 20.34
Даўжыня дня 14.36

Усход 2.48
Захад 19.10
Квадра 4




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

**НАРАЧ**

Мінімальная тэмпература +5 °С у 2015 годзе
Максімальная тэмпература +28,5 °С у 2004 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 34,9 мм у 2010 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- **Вуліца Віленская ў Маладзечне – вуліца легендарная. Той, хто стаіць на аўтобусным прыпынку, заўважае, што ў адным доме на акне вісяць лялькі, у другім – размаляваныя сцэны. Мы пазнаёміліся з гаспадарамі "зялёнага" дому. І яны паведамілі некаторыя таямніцы вуліцы Віленскай. Разгадка ў наступным нумары "РГ".**



● ПРОСТА АНЕКДОТ

1 красавіка. Мяне кінула дзяўчына, цэлы дзень на званкі не адказвала. Увечары тэлефануе і кажа, што пажартавала. А я ўжо новую знайшоў. Ай, як няёмка.

***

Жанчына ў краме дываноў:

– Мне трэба што-небудзь практычнае для дзіцячага пакоя, каб не рвалася і не пэцкалася.

– А колькі ў вас дзяцей?

– Шасцёра.

– Лепш заасфальтуйце пакой.

## Рэдакцыю "Рэгіянальнай газеты" ўзнагародзілі граматай Фонду міру

На мінулым тыдні сябрар газеты і наш пастаянны аўтар **Алесь Раткевіч** перадаў рэдакцыі грамату ад Фонду міру.

У ёй галоўнаму рэдактару **Аляксандру Манцэвічу** і калектыву газеты старшыня праўлення Фонду **Максім Місько** выказвае ўдзячнасць за шматгадовую, актыўную і абектыўную падтрымку на старонках газеты дзейнасці Беларускага фонду міру па захаванні гістарычнай спадчыны і роднай мовы дзеля міру і незалежнасці ў краіне.

**Аддзел інфармацыі.**

## Адкрылі новую веласцяжынку

**ВІЛЕЙКА**

12 жніўня ў Вілейцы адкрылі кіламетровую веласцяжыну.

Яна працягнулася ўздоўж берага Віліі ў Ніжнім парку. Сцяжынка з'явілася тут у рамках праекта "Садзейнічанне развіццю на мясцовым узроўні ў Рэспубліцы Беларусь", які фінансуюць Еўрасаюз.

Ініцыятарамі стварэння сцяжыны выступілі сябры грамадскага аб'яднання "ЗОВіК".

Сцяжыну адкрылі ўрачыста з перарazaннем стужкі. Праўда, не традыцыйнай чырвонай, а зялёнай. Зялёны колер сімвалізуе ўвасабленне новых ідэй.

Пра гэта распавяла старшыня грамадскага аб'яднання "ЗОВіК" **Таццяна Цітуленка**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Астраўцы адчынілі новы дзіцячы садок

**АСТРАВЕЦ**

11 жніўня ў новым дзіцячым садку ў Астраўцы супрацоўнікі прымалі першых дзяцей.

Садок разлічаны на 190 месцаў. Яго пабудавалі ў новым жылым мікрараёне. Гэта ўжо другі дзіцячы садок, пабудаваны ад 2014 года. Яго пабудавалі па тыпавым праекце. Разлічаны сад на 10 груп для дзяцей ад 2 да 6 гадоў.

Тут ёсць гульнявыя і спальныя памяшканні, залы для заняткаў музыкай і спортам.

**Паводле БелТА.**

## Свята "Пад знакам Лялівы" і фэст керамікі зладзяць у Крэве

**СМАРГОНЬ**

19 жніўня Крэўскі замак запрашае усіх прыхільнікаў рыцарскіх забаў і народнай музыкі на свята "Пад знакам Лялівы" і фэст "Кераміка Крэва".

Мерапрыемствы пачнуцца ў 15:00. Правядуць конны рыцарскі турнір, майстар-класы па кераміцы і сярэднявечных танцах, выступы фальклорных калектываў, фаер-шоу, выстава-продаж керамічных вырабаў.

**Аддзел інфармацыі.**

## Ашмянскай мытні не будзе

**АШМЯНЫ**

Ад 1 кастрычніка Ашмянская мытня перастане існаваць, паведаміў старшыня дзяржаўнага мытнага камітэта **Юры Сянько**.

Зона адказнасці Ашмянскай мытні пяройдзе пад юрысдыкцыю Гродненскай рэгіянальнай мытні.

Кіруючы персанал перавядуць у памежныя пункты мытнага афармлення і іншыя аддзелы.

– За кошт такой аптымізацыі ўзмацніцца мяжа. Часткова скароцяць адміністрацыйны апарат, які кіраваў мытняй на ашмянскім накірунку, – патлумачыў старшыня.

**Паводле БелТА.**

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Ад якога часу, на вашу думку, павінны пачынацца ўрокі ў школе?



**Вераніка Газава, дызайнер, Вілейка:**

– Думаю, аптымальным часам будзе той, да якога бацькі і ў школу змогуць дзяцей адвесці, і на працу не спазніцца. Для мяне такі час – 8:30.



**Алена Масцерава, у дэкрэтным адпачынку, Маладзечна:**

– Мае дзеці вучацца ў дзве змены. Таму ўрокі павінны толькі ў восем пачынацца. Інакш не паспеем у мастацкую школу, харэаграфічную студыю, басейн. Інакш дзеці проста пазней будуць класціся спаць. Маё меркаванне: у колькі б ні пачыналі заняткі, дзеці на першым уроку будуць сонныя.



**Алеся Сэсарава, псіхолаг, Вілейка:**

– На маю думку, гэта дзевяць гадзін раніцы. Пры ўмове, што дзяцей у школу дзеля іх бяспекі даставяць бацькі.



**Антаніна Галубовіч, музыкант, Маладзечна:**

– Лічу, што заняткі ў школе трэба пачынаць ад дзевяці гадзін. У восем дзеці будуць яшчэ сонныя і не змогуць засвоіць матэрыял.



**Андрэй Дуровіч, ахоўнік, Вілейка:**

– Трэба, каб было зручна і дзяцям, і бацькам. Наўрад ці можна падабраць такі час, калі адным на працу да сямі раніцы, а другім да дзесяці.



**Ларыса Рудзянок, тавараэнаўца, Маладзечна:**

– Калі дзіця хоча вучыцца, то для яго асаблівай розніцы няма. А для бацькоў няздручнасці заўсёды будуць. Давайце тады другую змену наогул адменім. Не думаю, што знойдзецца шмат бацькоў, якім зручна выпраўляць дзяця ў школу ў абед.



**Віталь Хрусталёў, электрык, Маладзечна:**

– У колькі б не зрабілі, на першым уроку спаць заўсёды будзе хацецца. Я нават калі вучыўся ў другую змену, на ўроках ледзь паспяваў, бо любіў паспаць гадзін да 11.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by

Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№33 (1164) 18.08.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330 /190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 774. Падпісана ў друк у 9.00 17.08.2017.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518**.
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.